ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 2 (2528)
ПЯТНІЦА
8
студзеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.




Мы ўжо расказалі чытачам пра выцінанкі мінскага фотарэпарцёра В. Дубінкі. Звычайная папера, звычайныя нажніцы—надзвычайная прыгажосць. Такая, як гэтая...



Эрнест ЯЛУГІН

НАРЫС



# ДОЎГІЯ ДНІ САЛІГОРСКА

ПАКОЙЧЫК маленькі, два з палавінай, ад сілы тры на два, не больш. Але тут памясцілася канапа, шафа з кнігамі і стол насупраць акна. Мара стольких яшчэ з нашай пішучай братвы, у тым ліку і мая. Таму мне зразумелы гонар гаспадара, які мне ўсю гэтую раскошу паказваў.

Гаспадар пакойчыка ўступіў яго зараз мне, і давялося з гэтым пагадзіцца, гасцініца ў горадзе пакуль не гатовая, а ў інтэрнаты, разлічаныя, прыкладна, на паўтары тысячы чалавек, у цяперашні час «штурмоўкі» нейкім цудам уціснута больш за дзве тысячы жыхароў! Маглі б, канечне, і для мяне дзе-небудзь прыткнуць раскладушку ў калідоры, але надта ж захаладала ў апошні час, каб адважвацца мне на такое... Распесціўся ці што... А калісьці ж... Ды вось жа і зараз жывуць людзі! Каля станцыі Калій, дзе заканчваецца другая частка Трэцяга камбіната, хлопцы і зусім абсталяваліся ў «шанхаі», у старэнькіх латаных «бытоўках». Месяцамі гэтак жывуць. Жартачкі — столькі камандзіровачнага народу набралася. Дзіўна яшчэ, што гаспадарнікі неяк падтрымліваюць хоць які парадак, на вакзале людзі не начуюць. У навакольных вёсках, калі параўнаць з нядаўнім часам, пастаяльцаў таксама не сказаць, каб многа.

Выручыў мяне Аляксей Кур'ян, цяперашні рэдактар салігорскай шматтыражкі «За камуністычнай труд!». Сустрэліся мы з ім на аўтобуснай станцыі, і ён у адказ на маё — дзе б гэта ўладкавацца на начлег? — адразу ж рашуча аб'явіў, што нечага і шукаць, калі ў яго месца хопіць.

— Ды дзе ж у цябе? — запярэчыў я, прыпомніўшы, як некалі маладая пара Кур'янаў з вялікай урачыстасцю ўсялялася ў толькі што пабудаваны дом для маласямейных. Пакой ім дастаўся метраў дзесяць, не больш, чатыры голыя сцяны, акно і дзверы. Але галоўнае — дзверы, а не паркалевая фіранка, як на кватэры, калі добрыя людзі адводзяць вам вугал за чырвонец. Хто быў кватарантам, ведае, што гэта такое.

І ўводзіў Кур'ян сваю маладую жонку ў гэты немудрагелісты «маласямейны» пакойчык, нібы прынц прынцэсу ў казачны замак.

Прынцэса зараз жа ўзяла вядзерца, анучу і да бляску памыла і выцерла акно, так што пакойчык увесь запоўніўся сонцам.

Я іх абодвух прыкмеціў, калі яны былі яшчэ жаніх і нявеста. І, напэўна, не адзін я, таму што ў гэтай ролі яны былі, здаецца, год. А то і больш. Ва ўсякім выпадку не менш. Другі мой знаёмы салігорац за гэты ж час паспеў не толькі прайсці стадыю жаніха, наклікаць пагарду да сябе маладой жонкі, сто разоў насмерць пасварыцца, але і пацвердзіць суду, што ён згодзен з заявою «другога боку» аб скасаванні шлюбу.

А гэтыя працягвалі яшчэ па вечарах гуляць па адзінай у той час вуліцы, гаварыць адзін аднаму «вы» і аб чымсьці няспешліва гутарыць. Быццам і жылі не ў тлуме дваццатага нашага стагоддзя.

Часта яны прыходзілі ў клуб будаўнікоў на танцы. Абодва стройныя, моцныя, нейкія па-асабліваму ўпэўненыя ў сабе, Кур'ян і яго нявеста, і тут прыемна вылучаліся сярод многіх.

Ён тады прыносіў да нас у рэдакцыю нядаўна арганізаванай шматтыражкі свае вершы на лістках з вучнёўскага сшытка. І падпісваў іх: А. Кур'ян, шафёр.

Шафёр ён быў, відаць, добры. Яго таварышы разы два прысылалі пра яго допісы. Адзін, здаецца, быў надрукаваны.

Яго вершы мы змяшчалі ўсе. Хоць нас крыху бянтэжыла, што яны, як казаў тагачасны сакратар камітэта камсамола будоўлі, заўзяты наватар, былі мала «насычаны» баявым задорам і рамантыкай. Лічылася, што менавіта гэтага чакаў ад нас малады чытач, і артыкулы, і рэпартажы імкнуліся мы аздабляць усялякімі рамантычнымі дэталямі.

Неяк мне трэба было напісаць пра брыгаду бетоншчыкаў Івана Лахвіча. Брыгада гэта тады грымела. Ёй адной з першых у Салігорску прысвоілі званне калектыву камуністычнай працы. А тут і выпадак такі надарыўся «падаць» яе званчэй — у начную змену, калі раптам сапсаваўся кран, бетоншчыкі ўсё ж здолелі выканаць заданне.

У маім невялікім нарысе пра тую начную змену былі і хмары, якія сеялі халодны дождж, і вецер, што разгойдваў стралу крана, і імклівая постаць Лахвіча, нястомнага і дакладнага, як машына, і рэплікі рабочых, напісаныя ледзь не белым вершам. Словам, усе ў рэдакцыі лічылі, што матэрыял удаўся, у парткоме будоўлі ён таксама быў заўважаны.

А ў абедзенны перапынак прыйшоў у наш рэдакцыйны пакойчык насуплены Лахвіч і паклаў рэдактару на стол газету з маім опусам, дзе былі падкрэслены ў некалькіх месцах словы і цэлыя радкі.

— Ведаеце што, — сказаў Лахвіч. — Вы такую паэзію ў сваёй газетцы пра мяне не пісалі б. Сорамна ж чытаць. Дальбог! Вы праўду адну пішыце, а не паэзію.

І пайшоў раззлаваны.

А мы ж яшчэ і пасля даволі доўга грашылі квяцістасцю, пакуль такія, як Лахвіч, бескампрамісныя і калючыя, не навучылі нас цаніць вышэй за ўсё чыстую праўду.

Калі і такія, што не пярэчылі, калі рэчаіснасць крыху падфарбоўвалася. Спачатку рабілі выгляд, што нічога такога не было, а потым ужо самі адкрыта крыўдзіліся, калі пра іх пісалі толькі праўду. Так непрыкметна яны гублялі сябе, а ўрэшце будоўля губляла іх. Калі чыстая праўда нясе ў сабе стваральны пачатак, то падфарбаваная, яна здольна разбураць усё самае лепшае.

І вось цяпер, прасачыўшы далейшы іх лёс, папракаеш і сябе — гэта ж і ты, ты руку прыклаў, магчыма, збіўшы з панталыку непамернай пахвалой яшчэ нястойкую, незагартаваную душу.

Лахвіча мы, здаралася, крытыкавалі ў газеце, за гэта нас нават аднойчы і папракнуў адзін з тагачасных кіраўнікоў будоўлі: маўляў, не патрыятычна падрываць аўтарытэт перадавіка. Але сам перадавік не крыўдаваў, дружыў з намі, заходзіў часта пагутарыць.

А на пахвалу, што падфарбоўвала, на яго думку, праўду, раззлаваўся, і потым доўга быў з намі халодна-ветлівы.

Мастацкую літаратуру Лахвіч тады чытаў мала, многага ў ёй мог і не ведаць, не разумець, аднак не думаю, каб ён наогул быў недабразычлівы да паэзіі. Меў жа ён на ўвазе, канечне, так званую лакіроўку. Паэзія ж, гэта значыць вышэйшая ступень прыгажосці,—праўда, адна праўда. І чым больш маральна дасканалы чалавек, тым лепш ён гэта адчувае і тым настойлівей да гэтага імкнецца.

Наўрад ці правільна лічыць паэтамі адных рамантыкаў.

Дарэчы і рамантык рамантыку розніца, ісціна, якая даўно не патрабуе доказу.

ПАМЯТАЮ, як першы раз у рэдакцыі шматтыражкі з'явіўся Васіль Р. Невысокага росту, вяртлявы, у вачах бляск, гадоў пяць таму назад - я абавязкова дадаў бы, «задорны» бляск. Р. быў лёгкі на слова, адказваў бойка, гаварыў, як падабаецца яму Салігорск, як добра быць будаўніком. Чытаў свае вершы, размашыста запісаныя на крыху скамячаных аркушах. Вершы мы надрукавалі разам з нататкай пра іх аўтара. Там праслаўляліся рамантыкі, што пад завыванні зімовай завірухі працавалі на капры, «не трусили и не ныли».

Хоць працаваць на вышыні ў завіруху нельга. Гэта потым нам растлумачыў адзін інжынер па тэхніцы бяспекі.

Але хіба «бюракратычныя» правілы тэхнікі бяспекі маглі выклікаць рамантычныя вершы?

Р. неўзабаве стаў у Салігорску рамантыкам нумар адзін. Яго імя ўпаміналі ў справаздачах сакратар камсамольскай арганізацыі, пра яго пачалі пісаць не толькі мы ў сваёй шматтыражцы, але і маладзёжныя рэспубліканскія газеты. Прайшло няшмат часу, і ўжо маскоўскі літаратар М. Шур палічыў магчымым прысвяціць хлопцу хвалебны раздзел у сваёй кнізе пра Салігорск «Аповесць з адрасам».

Неяк, прачытаўшы ў газеце вершы Р., яму прыслала пісьмо дзяўчына, здаецца, з Бабруйска. Яна пісала, што таксама рамантык і шукае сяброў рамантыкаў. Р. адказаў ёй. Так узнікла перапіска. Многія пісьмы Р. прыносіў у рэдакцыю, чытаў нам, а потым запрасіў дзяўчыну ў Салігорск. Але калі яна паведаміла, што выязджае, Р. прымчаўся ў рэдакцыю разгублены, раіўся, што рабіць. У камітэце камсамола паабяцалі ўладкаваць яе ў інтэрнат і на работу.

А потым газета змясціла ледзь не рэпартаж аб сустрэчы двух рамантыкаў. Прыехаўшую нават вітаў прадстаўнік камітэта камсамола...

Прыкладна праз месяц рамантычная душа з Бабруйска ўжо без ніякай урачыстасці з невялікім чамаданам у руцэ чакала міжгародняга аўтобуса. Ад'язджала яна назусім, у Салігорску ёй не спадабалася.

Неўзабаве Р. пакінуў будаўнічую брыгаду—папрасіўся ў шматтыражку. Але таму, што рэдактар, як высветлілася, больш цікавіўся «презренной» прозай для газеты, то Р. працаваў у рэдакцыі нядоўга. Куды ён з'ехаў з Салігорска, ніхто не ведаў.

На гэтым не скончылася. Раптам Р. зноў аб'яўляецца ў Салігорску, яго прымаюць у будаўнічую брыгаду, а газета друкуе новыя вершы аб рамантыках. Так працягваецца месяцы тры.

Нечакана Р. зноў знікае. Цяпер гэта становіцца ўжо нейкай гульнёй—то Р. прыязджае і просіць афарміць яго на работу, то праз месяц-два звальняецца і некуды едзе. Пра яго цяпер ходзяць вясёлыя анекдот.

Калі Р. пакінуў Салігорск прыкладна пяты раз, новаму рэдактару шматтыражкі Аляксею Кур'яну будаўнікі сказалі неяк, пасмейваючыся:

— Раней вы Васіля ўсе хвалілі, а мы, калі ён яшчэ з'явіцца да нас, прынясём фельетон.

Нядаўна ў рэспубліканскай газеце, чытаючы рэпартаж з адной новай беларускай будоўлі сустрэў я там і прозвішча Васіля. Карэспандэнт узнёсла расказваў пра сустрэчу са старым рамантыкам.

І чаму гэта ў большасці з нас, пішучых, так яшчэ бывае: крытыкуем каго, то ўжо бясконца, але калі і хвалім, вось возьмемся, то таксама без меры. Ужо бывае і самому хвалёнаму не можацца, а мы ўсё хвалім!

«Паглядзіце, які тут горад! Белыя, бела-блакітныя, упісаныя ў сінь неба фасады высокіх дамоў, як шматпалубныя караблі караванам на небасхіле... Залацістыя... Архітэктура з іголачкі... Жыхары... пераважнай часткай з блізкіх вёсак, з цішыні лясоў, з дрымучых хатак былога партызанскага краю... Лясныя бабулькі...» Ну, і гэтак далей.

То зноў М. Шур, але ўжо ў кнізе «Я ведаю сілу слоў...» Абедзьве я браў у салігорскай бібліятэцы і чытаў аўтограф, у якім аўтар прызнаецца ў любві Салігорску. І неяк няёмка было бачыць, як пасмейваюцца салігорцы з гэтых двух кніжак, напісаных такім узнёслым стылем, і з гэтага прызнання ў любві гораду, з якім мімаходзь пазнаёміўся.

А БАБУЛЕК у Салігорску мала. Хоць «лясных», хоць гарадскіх. На дошцы аб'яў, проста на тэлеграфных слупах і вуглах дамоў наклеены паперкі: «Патрабуецца нянька». «Возьмем на кватэру дзяўчыну, якая будзе прыводзіць дамоў з ясляў дзіця». Маладыя маці не хочуць сядзець дома. Ды і не ўседзіш на адну мужаву зарплату, калі хочацца мець у новай кватэры не проста мэблю, а «харошую», калі салігорскія дзяўчаты-дзесяцікласніцы і тыя патрабуюць ад бацькоў, каб ім справілі не проста боты, а імпартныя за 60-70 рублёў. І шарсцяныя, зноў жа імпартныя кофты, і вязаныя касцюмы... Не навучыўшыся яшчэ зарабляць, яны ўжо імкнуцца спажываць па вышэйшай катэгорыі. А як тут адстаць дарослым? Дакладней тым, хто сам зусім нядаўна стаў дарослым і яшчэ не выпрацаваў у сабе ўменне сувымерваць магчымасці з жаданнямі. Правінцыяльны шык круціць яшчэ многія маладыя галовы. У гарадскіх аўтобусах чуеш:

—Вы дзе гэта дасталі?

—Быў у магазіне, а там толькі дзяшовае. Думаў касцюм купіць харошы і туфлі харошыя.

—І дзе гэта людзі дастаюць боты харошыя?

Харошы, харошае, харошага. Прыемныя ўсё ж словы... Дарэчы, як гэта здарылася, што слова «дастаць» так моцна пацясніла, здавалася б больш нармальнае «купіць»?

Аб'ява: «Прадаецца вясельная сукенка». Кожнаму, хто бачыць гэта, так і падумаецца: у некага ўжо зусім кепскае становішча, калі рашылася прадаваць тое, што заўсёды лічылася самейнай рэліквіяй, зберагалася, як успамін аб светлым моманце ў жыцці. Аказваецца, ніякай драмы. Проста маладая пара вырашыла пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў: навошта сукенка, пашытая спецыяльна да вясельля, калі вяселле было два гады назад?

Нядаўні інжынер-будаўнік, а зараз выкладчыца горна-хімічнага тэхнікума, атрымлівае добрую зарплату. І раптам высвятляецца, што яна аформлена ў будаўнічым упраўленні яшчэ і вартаўніком. Знаёмыя пасмейваюцца:

— Вось вам і паэтэса.

Быццам само сабой зразумела, што калі піша вершы, значыцца, павінна быць сціплай бессярэбраніцай.

А, можа, і трэба быць ёю? Яшчэ прабацька ўсіх паэтаў Гамер не цярпеў тых, хто пакланяўся раскошы. Нават героі і паўбогі ў яго мелі толькі тое, што патрэбна было для падтрымання сіл,—і ніякіх лішкаў.

Гэта змест размовы з адным маладым салігорскім паэтам.

МАЛАДЫЯ салігорцы прагна шукаюць «делать жизнь с кого». Праўда, галоўнае яны ведаюць цвёрда: на зямлі патрэбна быць работнікам. Добра працуюць амаль усе. Тут і за прыкладамі хадзіць далёка не трэба. Скажам, той жа калектыў 108-га ўпраўлення механізацыі і спецработ, якое некалі многа крытыкавалі, цяпер у гонар партыйнага з'езда ўжо ў пачатку лістапада выканаў пяцігадовы план. А да 19-га лістапада было выканана будаўніча-мантажных работ у лік будучай пяцігодкі на 450 тысяч рублёў.

І шахцёры таксама да канца лістапада выканалі пяцігодку. Звышпланавай прадукцыі да новага года выпушчана дзесяткі тысяч тон. Лепшая ў Салігорскім каліійным басейне камбайнавая брыгада камуніста Віктара Бабіча айчынным камбайнам ПК-8 прайшла за месяц 3109 пагонных метраў выпрацовак і здабыла амаль 53 тысячы тон руды. Такога яшчэ ніхто не дабіваўся ў краіне.

Ёсць, ёсць з каго браць прыклад!

Цяпер жа хачу сказаць вось пра што. Аднойчы ў свой час вельмі вядомы шахтапраходчык Мікалай Карэнька запрасіў мяне ў госці ў сваю новую кватэру. У пакоі, дзе яшчэ моцна пахла вапнаю, мы сядзелі за багатым сталом і пілі «сталічную» і адзін з гасцей малады шахцёр, пахваляўся, што п'е толькі шклянкамі, другой меркі не прызнае.

Потым і Мікалай неяк прыйшоў да нас у інтэрнат, і мы выставілі з гэтага выпадку пачастунак—бутэльку каньяку. А вакол бутэлькі стаялі нядаўна набытыя намі на нейкі выпадковы ганарар падобныя да кветкавых пялёсткаў маленькія кілішкі, «каньячныя». І Мікалая спачатку нават збянтэжыла гэтая бліскучая драбната.

Але наступны раз, калі мы зноў трапілі да яго ў госці, стол ужо не быў так густа застаўлены «сталічнай» і чайнымі шклянкамі. На чыстым абрусе стаяў каньяк і... кілішкі, падобныя да казачных балерынак на высокіх ножках.

—Мы таксама ўмеем піць каньяк з кілішкаў, а не толькі вы, рэдактары,—сказаў тады Мікалай.

Між тым «правільна» піць каньяк, таксама як і ведаць у якой руцэ трымаць відэлец, уменне абыходзіцца без нажа, калі ясі рыбу, веданне марак магнітафонаў, уменне прыгожа завязваць гальштук, насіць крухмальныя сарочкі, беспамылкова знаходзіць выключальнік тэлевізара і таму падобныя штукі, якія звычайна засвойваюцца за 20 мінут, толькі дрымучы абывацель

зараз назаве культурай. Я хачу толькі сказаць, што іншы раз, а можа і нярэдка далучэнне да «цывілізацыі» пачыналася з каньячных кілішкаў. Тойсёй гэтым і заканчвае сваю адукацыю.

Думаю, Мікалай не пакрыўдзіцца на мяне, з таго выпадку ён і сам не рабіў тайны. Ды і было гэта так даўно! Няўжо паспела мінуць больш дзесяці гадоў? Мікалай за гэты час скончыў вячэрняе аддзяленне горна-хімічнага тэхнікума, на рабоце яго называюць цяпер па-бацьку, у яго аўтарытэт майстра, узнагароды і, выпрацаваная гадамі работы над сабой, культура. Трэба яшчэ сказаць, што ён многа чытае.

ДАРЭЧЫ, у Салігорску наогул многа чытаюць.

На што я яшчэ звярнуў увагу, калі зайшоў у чытальную залу салігорскай бібліятэкі, праўда, ужо не ў тую, што была калісьці, а ў больш прасторную, цёплую, светлую—гэта на схіленага над часопісам шыракаплечага хлопца, які перапісваў сабе ў сшытак вершы. Я падышоў бліжэй, зазірнуў—вершы Еўтушэнкі. Шарыкавая ручка здавалася саломінкай у моцных рабочых пальцах. У мяне было такое ўражанне, быццам і не было іх, гэтых дзесяці гадоў. Гэта ж і раней, калі б я ні заходзіў у чытальную залу салігорскай бібліятэкі, абавязкова хто-небудзь сядзеў і перапісваў вершы. А тады—гадоў дзесяць-адзінаццаць таму назад—не так проста было зімовым часам сядзець у чытальні і перапісваць вершы. Пад бібліятэку быў прыстасаваны невялікі дашчанік, так-сяк уцеплены пілавіннем. Бібліятэкар Таццяна Дрэнь сядзела ў вялікіх валёнках, у старэнькім паліто і, перш чым запісаць у картачку кнігу, звычайна доўга хукала пасінелымі губамі на тонкія свае, як бы падталыя, пальцы.

—Вы па якой кнізе хочаце, каб канферэнцыя была?—пыталася бібліятэкар.—А вершы пішаце?

Таццяна і сама пісала вершы. Дзіўна, што ніводнага радка яна не напісала пра тое, як рыпіць пад нагамі змерзлая падлога ў маленькім дашчаніку, як пахне мышамі і марозным кніжным пылам...

Паэты дапамагаюць лепш зразумець сапраўднае прызначэнне чалавека, месца кожнага сярод многіх.

Пішуць, праўда, салігорцы і прозу, але пераважна ўсё ж вершы. У адным толькі літаратурным аб'яднанні «Вясёлка», што створана пры рэдакцыі шматтыражнай газеты, каля двух дзесяткаў актыву.

І усё ж цяпер пішуць не так, як калісьці. «Стала строже я, суровей, и живется сложно мне»,—напісала ў адным са сваіх апошніх вершаў маладая жыхарка Салігорска студэнтка-завочніца Міла Беразоўская. Яна назвала верш «Развітанне з дзяцінствам». А падпісваецца яшчэ напэўна па-прывычцы—Міла.

Ну, што ж, няхай Міла.

Міла выказала агульны настрой салігорцаў—з дзяцінствам горада пара развітацца. Значыць, і жыць трэба «строже». А гэта не заўсёды ўдаецца. Цяжка нядаўняму вясковаму хлопцу вось так, што называецца з ходу, засвоіць новую для яго псіхалогію гаражаніна. Усё яшчэ нязвычна, што будзеш жыць тут не год, не два нават. І калі зімой з балкона выкінуў смецце на двор, то будзеш вясной і летам нюхаць не водар кветак, а смурод гнілі. І шкло ад бутэлькі, разбітай з прыяцелем на лужку перад домам параніць праз каторы час тваё дзіця, якое зараз ты, саромеючыся ад нязвыклай яшчэ ролі бацькі, возіш у навенькай бліскучай калясцы. Нялёгка засвойваць скрупулёзна-дакладную работу. Ці не таму бывае яшчэ столькі няўвязак на будаўнічых аб'ектах, пераробак?

Нядаўна вось было аб'яўлена, што будаўнікі здаюць у эксплуатацыю закрыты басейн для плавання. Вялізны, з двумя вышкамі для скачкоў, з прыстасаваннямі для ачысткі і падагрэву вады—многім гарадам ёсць чаму пазайздросціць. І раптам выяўляецца, што падлога вакол чашы нахілена не ў той бок, у які запраектавана. Пачалі выломваць керамічныя пліткі, каб неяк ліквідаваць контрузровень. Потым спахапіліся, што няма стартавых тумбаў. Выломвалі плітку і ставілі тумбы. Давялося перарабляць таксама пенапагашальнікі, якія паставілі без вострага грэбеня. І тут выдзіралі плітку, білі бетон. Потым выявілася, што пярэднюю сцяну басейна трэба было абліцаваць не толькі белай пліткай, але і паставіць каляровыя лінейкі. Дзесьці не зрабілі адтуліну для трубы...

А па нарадах басейн быў ужо гатовы.

Для мяне і да гэтай пары застаецца амаль загадкавым—як умудраюцца прарабы ўсё ж заканчваць будаўніцтва, ліквідоўваць усе гэтыя хібы, калі банк ужо закрыў крэдыт і цалкам выдаткаваны фонд заработнай платы. Тут трэба не адну толькі будаўнічую навуку ў інстытуце вызубрыць!

Але гэта ўжо размова асобная.

А ці ж той, хто збіраецца тут сам жыць, а потым, магчыма, і ўнукаў гадаваць, ці ж культурны гаспадар у цвярозым розуме выпусціў бы ў цудоўнае, не меншае, чым Заслаўскае, вадасховішча вытворчыя адыходы? У Салігорску ж гэта зрабілі. І потым паверхня вады і берагі—усё было запоўнена дохлай рыбай. Суседнія калгасы рыбу, сярод якой, відавочцы расказваюць, трапляліся паўпудовыя падусты і шчупакі, рыдлёўкамі грузілі ў машыны і вазілі на корм жывёле. А што не паспелі забраць—а не паспелі многа,—месяцы гніло потым і атручвала наваколле. Дзіўна, што нікога за гэтае злачынства не прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.

НЕАБХОДНАСЦЬ у грунтоўнай эстэтычнай самаадукацыі новых гараджан усё яшчэ вялікая. Людзі гэта самі разумеюць. Ці не таму добрыя, «разумныя» кнігі ў Салігорску разыходзяцца амаль з такой жа хуткасцю, як у якім-небудзь універсітэцкім цэнтры. У горадзе дзве кнігарні, і абедзве штомесяц перавыконваюць план. Калі ў многіх яшчэ райцэнтрах бывае даволі лёгка застаць кнігу, якая разышлася ў Мінску, то Салігорск па попыце на кнігі мала чым адрозніваецца ад сталіцы. Прадаўцы скардзяцца, што многае з літаратуры, якую ў іх пытаюць, базы даюць у недастатковай колькасці. На большасць падпісных выданняў—чарга. Таму мяне вельмі здзівіла, што з дваццаці двух падпісчыкаў на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю ў магазіне спажыўкааперацыі зараз дваццаць чамусьці адмаўляюцца забіраць першы том, нягледзячы на напамінанне прадаўца. Хутчэй за ўсё тут вінавата слабая і няўмелая рэклама. Магчыма, патрэбна дапамога мясцовых газет. Ва ўсякім разе, выпадак у практыцы кніжнага гандлю ў Салігорску унікальны, з ім трэба разабрацца.

Папулярныя ў горадзе лекцыі па пытаннях этыкі і эстэтыкі, большасць спектакляў у клубах ішлі з аншлагам.

— Адзінае, што яшчэ даводзіцца папулярызаваць,—гаворыць загадчык аддзела культуры гарсавета П. Кісель,—гэта класічную музыку. Большасць слухачоў тут падрыхтаваны слабавата.

Каб ліквідаваць гэты прабел, наладжваюцца гутаркі, лекцыі ў клубе гарнякоў. З дня на дзень чакаецца адкрыццё музычнага салона, застаецца толькі зрабіць невысокі памост у адной з залаў. Дарэчы, тут жа, напэўна, знойдзецца месца для аматараў паэзіі. Шкада, што ведамаснасць салігорскіх клубаў часам перашкаджае выпрацаваць ім адзіную праграму культурна-асветных мерапрыемстваў. Кожны сам па сабе. Гарадскі ж аддзел культуры ўяўляе нешта трэцяе, правоў на прамое кіраўніцтва клубамі ў яго няма, і той жа П. Кісель чалавек энергічны і добра прафесійна падрыхтаваны, вымушаны многа часу траціць на тое, каб узгадніць, утрэсці якую-небудзь дробязь.

Таксама «хвароба росту» маладога горада.

Але вярнуся да кніг. Я ўжо гаварыў пра тое, што салігорцы з вялікай цікавасцю чытаюць усё, што пішуць пра іх. Гэта не простая цікавасць, а ўсвядомленая ці неўсвядомленая патрэба праз мастацтва пазнаць саміх сябе.

А што яны могуць прачытаць менавіта пра свой горад?

Калі паглядзець у бібліятэках, то не так ужо і мала. Здаецца, усяго гады тры, як прайшла мода пісаць пра Салігорск, пра беларускіх шахцёраў. Салігорцаў праслаўлялі ў вершах Уладзімір Паўлаў, Уладзіслаў Нядзвецкі і яшчэ многія паэты, пра яго дзве кнігі прозы ўпамянутага ўжо масквіча М. Шура, кніга «Салігорскае дзіва» М. Паслядовіча, п'еса П. Васілеўскага «Вера, Надзея, Любоў»... І што ні вазьмі—усё захапленне, усё здзіўленне, якія, магчыма, на першым часе да месца ў рэпартажах, але ад якіх, мне здаецца, дэвальвіруецца літаратура, якая прэтэндуе на сур'ёзны аналіз душ чалавечых. І толькі два пісьменнікі з самога ўзнікнення салігорскага буму ў беларускай літаратуры паспрабавалі сур'ёзна разабрацца —а што ж такое Салігорск?

Першы быў Янка Сіпакоў, хоць яго нарысы пра шахцёраў і не былі ў свой час адзначаны крытыкай, як яны таго заслугоўвалі. Магчыма таму, што занадта часта ў тыя дні ў беларускай перыёдыцы мільгала слова «Салігорск». Але ўсё часовае ўрэшце забываецца, і тады лепш разумееш значэнне сапраўднай, дабротнай работы.

(Заканчэнне на 7-й стар.).



### ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

**За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў кампазітара Аладава Мікалая Ільіча ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

### У ПАРТЫЙНЫМ БЮРО САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Чарговае пасяджэнне партыйнага бюро, якое адбылося 5-га студзеня, было прысвечана абмеркаванню падрыхтоўкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» да VI з'езда пісьменнікаў БССР. Інфармацыю па гэтым пытанні зрабіў галоўны рэдактар штотыднёвіка Л. Прокша.

Свае думкі, пажаданні, заўвагі, прапановы выказалі ў час абмеркавання Максім Танк, Павел Кавалёў, Іван Шамякін, Аляксей Кулакоўскі, Васіль Хомчанка, Уладзімір Юрэвіч.

## ГУЧАЦЬ У ЦЭХУ ВЕРШЫ



ДАЎНЯЯ і шчырая дружба яднае працаўнікоў Мінскага завода аўтаматычных ліній з пісьменнікамі сталіцы.

Пісьменнікі — частыя госці на прадпрыемстве, а працаўнікі завода прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім і творчым жыцці Саюза пісьменнікаў БССР — удзельнічаюць у пісьменніцкіх сходах, семінарах, рабоце творчых секцый, дзе абмяркоўваюцца праблемы стану і далейшага развіцця літаратуры аб рабочым класе.

У канцы мінулага года цікава прайшоў сумесны партыйны сход пісьменнікаў-камуністаў і партыйнай арганізацыі завода, які абмеркаваў і зацвердзіў план узаемнага супрацоўніцтва.

5-га студзеня ў цэхах завода зноў гучала ўсхваляванае пісьменніцкае слова: на сустрэчу з працаўнікамі Мінскага завода аўтаматычных ліній, прысвечаную XXIV з'езду КПСС, прыйшлі — А. Бачыла, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, С. Грахоўскі, А. Грачанікаў, А. Зарыцкі, В. Зуёнак, А. Русецкі, М. Хведаровіч.

## НА ДАСВЕЦЦІ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

*Канферэнцыя ў Акадэміі навук БССР, прысвечаная 100-годдзю «Слоўніка» І. НАСОВІЧА.*

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР адбыліся чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з часу выхаду «Словаря белорусского наречия» І. Насовіча.

Дырэктар інстытута, член-карэспандэнт АН БССР М. Суднік, адкрываючы чытанні, адзначыў, што гэта лексікаграфічная праца стала важнай вяхой у развіцці беларускай мовы і лінгвістычнай навукі. Ён пазнаёміў прысутных з цікавымі рукапіснымі мемуарамі Івана Іванавіча Насовіча.

Загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі М. Лобан прааналізаваў структуру і прынцыпы будовы «Словаря белорусского наречия», падкрэсліў значэнне лексікаграфічных традыцый І. Насовіча для стварэння тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы. Слоўнік І. Насовіча, створаны на дасвецці беларускага мовазнаўства, — арыгінальная лексікаграфічная праца.

Дакладчык адзначыў, што І. Насовіч разглядаў беларускую мову як самастойную. «Словарь» быў задуманы як поўны слоўнік беларускай мовы другой паловы XIX стагоддзя. Аднак у яго не трапіла шмат агульнаўжывальных беларускіх слоў, бо паводле інструкцыі імператарскай Акадэміі навук «Словарь белорусского наречия» павінен быў змяшчаць лексіку і фразеалогію, адметную ад рускай — афіцыйная навука не прызнавала беларускай мовы.

Шэраг дакладаў быў прысвечаны розным пытанням насовічаўскай лексікаграфічнай практыкі і яе выкарыстанню пры даследаванні беларускай мовы.

А. КАЎРУС.

## 20 ГАДОЎ, 250 ПЕСЕНЬ



Адбыўся творчы вечар Альфрэда Шутава, самадзейнага кампазітара Брэстчыны. За дваццаць гадоў творчай дзейнасці А. Шутаў стварыў каля 250 песень. Многія з іх набылі шырокую вядомасць. Такія яго песні, як «Дзе ты, лета гарачае?», «Бярозавы гаёк», «Дзявочая лірычная», «Вішня белая», «Ах, любоў!», «Дума дзявочая», «Песня пра юнацтва», «Блізняты», «Песня маці» і іншыя, уключылі ў свой рэпертуар не толькі самадзейныя харавыя калектывы і асобныя выканаўцы, але і Омскі і Рязанскі народныя хоры, Людміла Зыкіна і Вольга Варанец.

Альфрэд Шутаў сабраў шмат народных песень, апрацаваў іх. Добра вядомы самадзейны кампазітар і як кіраўнік харавога калектыву абласнога савета прафсаюзаў — дыпламанта Усесаюзнага агляду самадзейнага мастацтва.

І. ТАРАСЮК.

Брэст.

## УСЁ ПРА СПОРТ

**Трэці Усесаюзны фестываль спартыўных фільмаў**

76 твораў было прадстаўлена на суд журы кінафестывалю спартыўных фільмаў, які праходзіў у Рызе. Сярод іх некалькі беларускіх стужак. Фільм «Сатвары бой» (рэжысёр М. Калінін) пра фехтавальшчыкаў атрымаў прыз за лепшы эстэтычны паказ спорту ў кіно.

Фільм беларускага рэжысёра-дакументаліста В. Сукманава «Споведзь марафонца» адкрыў яшчэ адну грань спартыўнага кіно — псіхалагічнае даследаванне. Умелыя здымкі, удалы мантаж летапіснага матэрыялу і сучаснасці, расказ удзельніка забегу ствараюць цэласны партрэт спартсмена.

Тэлевізійны фільм «Пераварот» пра вядомую школу гімнастыкі віцебскага трэнера В. Дзімітрава парадаваў непасрэднасцю назірання, мяккім лірызмам. І. Пікман яшчэ ў адным нашым конкурсным фільме «Пачнём з хадзьбы» адкрыў новую магчымасць кінаплаката — спалучэнне легендарных персанажаў з сучаснымі, ігравога кіно з дакументальным. І хоць гэтыя работы не сталі прызёрамі, яны выклікалі ў гасцей і дэлегатаў фестывалю сапраўдную цікавасць.



Аскар ГАНТМАН,

Вольга НЯЧАЙ

# «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»— УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА



**АРТЫКУЛ ПЕРШЫ**

ПЭЎНА, зусім не абавязкова падводзіць вынікі толькі ў час урачыстых юбілеяў, сходаў і віншавальных прамоў. Іншы раз карысна сабрацца з думкамі ў звычайны, будзённы час, калі праходзіць значны тэрмін развіцця якой-небудзь творчай арганізацыі. Скажам, дзесяць гадоў — такі перыяд, у які ўжо можна выявіць характэрныя тэндэнцыі развіцця, аддзяліць іх ад выпадковых акалічнасцей, прааналізаваць стан рэчаў.

Споўнілася дзесяць гадоў, як студыя «Беларусьфільм» атрымала новыя павільёны, сучасную тэхніку і абсталяванне. Адкрылася магчымасць штогод выпускаць больш дзесяці фільмаў. Тады ў прамовах кіраўнікоў студыі гучалі бадзёрыя ноты, на студыю ўскладаліся вялікія спадзяванні.

Што споўнілася з колішніх надзей, што не здзейснілася? Як беларуская мастацкая кінематаграфія выконвае ўскладзеныя на яе абавязкі і выкарыстоўвае створаныя для яе работы ўмовы, які ўклад уносіць у шматколерную, шматнацыянальную кінематаграфію нашай краіны? Крочыць недзе наперадзе, побач з лепшымі студыямі Саюза, з'яўляецца самабытнай нацыянальнай студыяй, расказвае праўдзіва і вобразна пра жыццё рэспублікі, яе мінулае і сучаснае, знаёміць іншыя народы з непаўторнай гісторыяй роднага краю?

Мы, вядома, не збіраемся выносіць нейкі прысуд рабоце вялікага творчага калектыву. Пастараемся аб'ектыўна і спакойна разабрацца ў сутнасці справы, каб не толькі канстатаваць стан рэчаў, але і прасачыць яго вытокі. Магчыма, нашы думкі здадуцца спрэчнымі — нічога дзіўнага, бо становішча студыі, яе вытворчая аддача — гэта цэлы комплекс складаных праблем. Але наш зварот да гэтых пытанняў выкліканы заклапочанасцю тым становішчам «Беларусьфільма», якое склалася на сённяшні дзень, той яго рэпутацыяй, якую ён мае за межамі рэспублікі і ў нас.

Каб не быць галаслоўнымі, мы заклікалі на дапамогу «сведкаў» — архіўныя матэрыялы, артыкулы, выступленні ў прэсе. Хай яны дапамогуць нам прасачыць характэрныя тэндэнцыі развіцця нашай мастацкай кінематаграфіі.

З 1960 па 1969 год студыя «Беларусьфільм» выпусціла каля 50 карцін. З іх да сапраўды ўдалых, прызнаных гледачамі і крытыкай, можна аднесці «Маскву — Генуя» (сцэнарыст і рэжысёр А. Спешнеў, 1964), «Горад майстроў» (сцэнарый М. Эрдмана, рэжысёр Ул. Бычкоў, 1965), «Альпійскую баладу» (сцэнарыст В. Быкаў, рэжысёр Б. Сцяпанаў, 1966). Ішлі спрэчкі аб фільмах В. Турава «Праз могілкі» (сцэнарыст П. Нілін, 1965) і «Я родам з дзяцінства» (сцэнарыст Г. Шпалікаў, 1967). Не ўсе прымалі яго творчую манеру, стылістыку, яго кінамову. Але, безумоўна, гэта фільмы цікавыя і змястоўныя, з арыгінальнай аўтарскай інтанацыяй. Хай сабе і не ўсё ў іх удалося. Не адну прэмію на фестывалях і аглядах атрымаў «Іван Макаравіч» (сцэнарыст В. Саўчанка, рэжысёр І. Дабралюбаў, 1968).

Такім чынам, да добрых (з рознымі агаворкамі і без іх) твораў можна аднесці шэсць фільмаў за 10 гадоў. Ці не замала?

Значна большы спіс фільмаў, прызнаных афіцыйна творчай няўдачай студыі — «Вясновыя навальніцы» (сцэнарый і рэжысура М. Фігуроўскага, 1960), «Колькі год, колькі зім» (сцэнарый і рэжысура М. Фігуроўскага, 1966), «Кахапая» (сцэнарый А. Стукалава, рэжысёр Р. Віктараў, 1965), «Іду шукаць» (сцэнарый А. Аграноўскага і М. Анчарава, рэжысёр І. Дабралюбаў, 1966), «Саша-Сашачка» (сцэнарый Л. Вакулоўскай, рэжысёр В. Чацверыкоў, 1967), «Увага, у горадзе чараўнік!» (сцэнарый В. Вітковіча, Г. Ягдфельда, рэжысёр Ул. Бычкоў, 1964), «Рагаты бастыён» (сцэнарый А. Макаёнка, рэжысёр П. Васілеўскі, 1965), «40 мінут да світання» (сцэнарый Р. Вікерса і А. Капеўскага, рэжысёр Б. Рыцараў, 1964), «І ніхто іншы» (сцэнарый С. Нагорнага, рэжысёр І. Шульман, 1968), «Тысяча вокан» (сцэнарыст і рэжысёр А. Спешнеў, 1968), «Дзесятая доля шляху» (сцэнарый С. Кара, рэжысёр Ю. Дубровін, 1969), «Мы з Вулканам» (сцэнарый Ю. Якаўлева, рэжысёр В. Пяроў, 1968); «Сатвары бой» (сцэнарый Ю. Лакербая, рэжысёр М. Калінін, 1969) і іншыя.

Даволі многа «сераднячкоў», якія не мелі ні вялікіх нараканняў, ні асаблівых пахвал. Некаторыя з іх прайшлі амаль незаўважанымі ў патоку кінарэпертуару. Іншыя дакаралі за сярэдні ўзровень, за падабенства на другія экранныя прыклады, за штампаванасць драматургічных ходаў. Успомнім некаторыя з іх — «Наперадзе круты паварот» (сцэнарыст А. Маўзон, рэжысёр Р. Віктараў, 1960), «Маленькія летуценнікі» (сцэнарысты Н. і В. Марозавы, рэжысёр А. Грачыха), «Апошні хлеб» (сцэнарыст В. Трунін, рэжысёр Б. Сцяпанаў, 1963), «Крыніцы» сцэнарыст І. Шамякін пры ўдзеле Ю. Шчарбакова, рэжысёр І. Шульман, 1966), «Чужое імя» (сцэнарысты М. Блейман, А. Ваксер, М. Баран, рэжысёр І. Шульман, 1966).

Ці не занадта вялікі працэнт браку ў вытворчасці, калі прыблізна з 10 выпускаемых карцін толькі адна добрая? Што б сказалі машынабудаўнікам, калі б з 10 выпушчаных імі аўтамабіляў толькі адзін мог рухацца? Як рэагавалі б тэлегледачы, калі б з дзесяці тэлевізараў толькі адзін прымаў перадачы?

Вядома, усякае параўнанне рызыкоўнае — машыны ж ці тэлевізары выпускаюцца серыямі, яны аднолькавыя. А кожны фільм павінен мець свой «твар», сваю адметнасць. Але бяда якраз у тым, што многія такія фільмы не маюць гэтай адметнасці, яны здаюцца бледнымі копіямі ранейшых, больш удалых твораў.

Калі гаварыць аб прычынах творчых няўдач на студыі ў 60-я гады, трэба закрануць многія аспекты яе дзейнасці. На студыі за гэты час змяніліся чатыры дырэктары, і не так даўно прыступіў да работы пяты. Цэлых дзесяць гадоў не было мастацкага кіраўніка, а, значыцца, не было творчага аўтарытэту, які мог бы накіроўваць работу маладых рэжысёраў, дапамагаць стварэнню сапраўды творчай атмасферы. Здараецца так, што пры цікавым, смелым, энергічным мастацкім кіраўніку, які эксперыментуе, шукае новыя творчыя шляхі, на студыю імкнуцца трапіць маладыя таленавітыя рэжысёры, аператары, якія адчуваюць духоўную патрэбу ў калектыве аднадумцаў. У дадзеным выпадку гэтага не здарылася.

Быў страчаны ў гэты перыяд і мастацкі крытэрый, захвальваліся слабыя фільмы. Не адчувалася трывогі за лёс новых стужак на абмеркаваннях у выступленнях кіраўнікоў студыі і камітэта па кінематаграфіі. Асноўныя творчыя пытанні абмяркоўваліся большай часткай на рэдсаветах, а не на мастацкіх саветах, куды ўваходзяць рэжысёры, аператары і мастакі, якія маглі б кваліфікавана і ўсебакова ацаніць мастацкія вартасці фільмаў.

Неаднаразова творчыя работнікі дакаралі кінакрытыку за адрыў ад вытворчасці. Але ж склад мастацкіх саветаў не быў пашыраны кіназнаўцамі, якія маглі б уздзейнічаць на якасць фільмаў у час іх вытворчасці, а не толькі абмяжоўвацца крытычнымі рэцэнзіямі, калі ўжо карціна выпушчана на экран і нічога змяніць нельга.

Мо некаторыя нам могуць запярэчыць, што такая ацэнка выпушчаных фільмаў занадта строгая, што і ў іншых студыях нямала сярэдніх і дрэнных твораў. Вядома, можна быць трохі больш паблажлівым і рабіць скідкі на розныя творчыя акалічнасці, на складанасць творчага працэсу. Але ж можна раўняцца і на «Старшыню», «Твайго сучасніка» ці «Баладу пра салдата».

Мы таксама бачым прыклады, калі і першыя творы маладых рэжысёраў атрымліваюцца таленавітымі, самабытнымі, сапраўды арыгінальнымі (успомнім фільмы Г. Панфілава «У агні броду няма» і «Пачатак», «Першага настаўніка» А. Канчалоўскага-Міхалкова, «Іванава дзяцінства» А. Таркоўскага ці карціны М. Кабахідзе, В. Шукшына з іх непаўторным светаўспрыманнем).

Таму пры ацэнцы работ і салідных і маладых майстроў мы не будзем раўняцца на дрэнныя прыклады, на «сераднячкоў», якіх хапае на ўсіх студыях, а кінем лепш погляд на вышыні, якіх хацелася б дасягнуць.

Давайце паспрабуем дакументальна прасачыць шляхі нараджэння «няўсхожага зерня» — фільмаў, якіх не прыняў глядач. Мо не ўсім прыйдзецца да густу, што на белы свет выцягваюцца іх прамовы, словы, выказванні. Але ж калі справа датычыць сённяшняга становішча нашай нацыянальнай кінематаграфіі, за якое мы ўсе разам хварэем, варта закрануць некаторыя не вельмі прыемныя пытанні. На нашу думку, атмасфера творчай супакоенасці на студыі, дзе кожны новы фільм лічаць удалым, — адна з прычын нараджэння пасрэдных твораў.

Варта было б прасачыць за з'яўленнем кожнага з такіх бедачкоў-сераднякоў. Хто іх павітухі, хросныя маці, хто тыя 12 казачных «чараўніц», што стаялі ля іх калыскі і з добрымі, натхняючымі словамі пускалі ў жыццё, абяцалі, што дзіцятка будзе прыгожае, разумнае, шчаслівае, што яго чакае поспех у кіназалах і ўдзячнасць гледачоў? А, мо, такога і не было?

На жаль, было.

Давайце параўнаем выбарачна адзнакі, якія давалі некаторым фільмам у час іх стварэння на ўнутраных студыйных абмеркаваннях, і тыя адзнакі, якія потым з'явіліся ў прэсе. Прыкладаў магло б быць вельмі многа. Возьмем некаторыя.

«Дзень, калі спаўняецца 30 год» (26 ліпеня, 1961 года, пасяджэнне творчай секцыі студыі «Беларусьфільм») — абмеркаванне матэрыялу фільма.

А. КУЧАР. Радасна адзначыць, што мы прысутнічаем пры нараджэнні рэжысёра. Матэрыял дынамічны, ясны. Рэжысёр умела кіруе акцёрамі. Матэрыял радуе. Актрыса добрая. Яе гераіня — сапраўды жывы чалавек.

І. ШУЛЬМАН. Мяне ўзрадаваў гэты матэрыял. Я ўбачыў ва ўсіх сцэнах якуюсьці праўду рэжысёрскую, акцёрскую, аператарскую.

Пры падвядзенні вынікаў абмеркавання было адзначана: «Ура» крычаць, вядома, не трэба, але тое, што рэжысёр сур'ёзна, удумліва падыходзіць да справы, — радуе. У матэрыяле няма ні шаблону, ні паўтору, ёсць свой почырк. У такім жа напрамку варта працаваць і далей.

У рэцэнзіях на фільм гучалі зусім іншыя ноты. «У палоне традыцыйнага» — так назваў артыкул С. Палякоў («Знамя юности» 15 чэрвеня 1962). «Усё, як у кіно, — піша ён — усё даўно знаёмае па кнігах, па многіх іншых фільмах... Вельмі прыкра, што першы фільм маладога і бясспрэчна таленавітага рэжысёра робіць уражанне даўно знаёмай карціны адразу ж пасля выхаду на экран. Што ж, першы блін, як кажуць, заўсёды камяком. Хочацца спадзявацца, што ўжо ў бліжэйшы час кінастудыя «Беларусьфільм» створыць такія кінастужкі, якія з часам не толькі страцяць, а будуць павялічваць свае мастацкія вартасці. Магчымасці для гэтага ёсць».

Характэрныя назвы рэцэнзій на гэтую карціну — «Калі святкуе сваю ўрачыстасць штамп» («Красное знамя», Сыктыўкар), «Дым без агню» («Ульяновская правда», Ульянаўск), «Дзень, які прайшоў упустую» («Вечерний Новосибирск»).

Аналізуючы фільм, аўтары рабілі больш шырокія высновы і аб рабоце студыі: «Пакідаем залу з расчараваннем і трывогай за студыю «Беларусьфільм» — турбуе гэткая «спецыялізацыя» студыі на камерных фільмах з сямейнымі праблемамі і псеўдапраблемамі. Бо ўсё гэта можа прывесці да ўступак мяшчанскаму густу» («Літаратурная Украіна», Кіеў).

Вось якімі словамі віталі нараджэнне камедыі «Саша-Сашачка», якая аказалася безумоўнай няўдачай студыі, на пасяджэнні сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі 13 мая 1964 года.

Л. ФАДЗЕЕВА. Сцэнарый напісаны таленавітай рукой, цікавая задума, добры дыялог. Але там не хапае драматызму, чалавечага фундаменту.

А. КУЧАР. Я згодзен, што патрэбна работа з рэжысёрам... Можа атрымацца вельмі добры, смешны фільм. У сцэнарыі ёсць вельмі многа смешных сітуацый.

Калі карціна выйшла на экран, гледачам было не да смеху.

«Фальстартам» называлі ў крытычных артыкулах карціну «Сатвары бой», вельмі слабую ў мастацкіх адносінах, асабліва з боку драматургіі. Калі ж сцэнарый абмяркоўваўся на пасяджэнні сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі 15 сакавіка 1967 года, гучалі інтанацыі даволі заахвочваючыя.

М. ПЯЦІГОРСКАЯ. Уражанне добрае. Сцэнарый здаўся вельмі дынамічным, чытаўся з цікавасцю.

М. ФРАЙМАН. Сцэнарый мне падабаецца. У аснове сцэнарыя пра спорт — маральны канфлікт... Я за тое, каб прыняць сцэнарый і даць папраўкі.

Праўда, былі і супрацьлеглыя ацэнкі. Напрыклад, Губарэвіч адзначаў, што ў сцэнарыі няма адказу на тое, дзеля чаго ён напісаны, якая яго думка. Але ж па сутнасці крытычныя заўвагі не былі ўлічаны.

Нельга сказаць, што ўсе карціны прымаліся на студыі без спрэчак, супярэчлівых выказванняў, прэтэнзій, да аўтараў. Але паказальна, што гэтыя прэтэнзіі, часам вельмі сур'ёзныя, практычна амаль ніяк не ўздзейнічалі на лёс фільма. Звычайна яго прымалі без асаблівых паправак, бо прыходзіў час, калі трэба пускаць у свет новую вытворчую адзінку.

Вельмі слабы, шэры, безаблічны фільм «І ніхто іншы», напрыклад, на пасяджэнні мастацкага савета (26 снежня 1967) атрымаў супрацьлеглыя ацэнкі. Прыхільнікі карціны лічылі:

М. ФРАЙМАН. Карціна атрымалася па ўсіх кампанентах... у ёй узняты сур'ёзныя маральныя праблемы, яна ўяўляе цікавасць па сваёй думцы... Глядач з цікавасцю будзе сачыць за ўсімі падзеямі.

Я. ГАНКІН. Мне здаецца, што фільм атрымаўся. Калі мы да гэтага часу глядзелі фільмы спрэчныя, то гэты бясспрэчны. Тут востры сюжэт. Хочацца адзначыць, што ў параўнанні з папярэднім фільмам — «Чужое імя» — Шульман зрабіў вялікі крок наперад.

В. ГУЗАНАЎ. Работа зроблена вельмі сур'ёзная. Пэўна, глядач будзе глядзець фільм з вялікай асалодай, многім ён спадабаецца.

Былі і працаўнікі карціны, якія недвухсэнсоўна і рэзка выказалі свае думкі:

М. ЗАБАЛОЦКІ. Да якога часу мы будзем глядзець карціны, дзе няма ні душэўнай інфармацыі, ні праўды?

А. БУЛІНСКІ. Калі не глядзець на экран, а толькі слухаць, то ствараецца ўражанне, што слухаеш фальшывы спектакль.

Але ж крытычныя заўвагі ў цэлым ніяк не ўздзейнічалі на лёс фільма, гэтак жа, як і на лёс шэрагу іншых фільмаў. Абмеркаванні, такім чынам, праходзілі ўпустую.

Вельмі многа было спрэчак па карцінах «Колькі год, колькі зім», «Усходні калідор», «Увага, у горадзе чараўнік!», «40 мінут да світання» і іншых. Але ўсе яны «пайшлі ў людзі», былі выпушчаны на экран без істотных змен. Напрыклад, на пасяджэнні сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, дзе абмяркоўваўся сцэнарый «Дзесятая частка шляху», былі выказаны тыя ж рэзкія і слушныя заўвагі, якія потым гучалі ў крытычных артыкулах.

А. КУЧАР. Мне сцэнарый не падабаецца. Гэта паўтарэнне «Бітвы ў дарозе». Я жадаю рэжысёру, каб ён з гонарам выйшаў з гэтага цяжкага выпрабавання.

Ю. ЛАКЕРБАЯ. Гэта самы дрэнны прыклад таго, што мы ўжо неаднаразова бачылі. У сцэнарыі ўсё схематычна.

Сцэнарый абараняў рэжысёр Ю. Дубровін, які лічыў, што ён «пабудаваны дабротна і сур'ёзна і дае аснову, на якой рэжысёру, аператару, акцёру магчыма прачарціць далейшае». У выніку на пасяджэнні сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі замест таго, каб прыслухацца да крытычных заўваг у адрас сцэнарыя, было вырашана, што гэты матэрыял, «з якога рэжысёр Дубровін можа здабыць паэзію жыцця».

Неаднаразова ў водгуках прэсы на асобныя слабыя фільмы аўтары ставілі пытанне больш шырока, імкнуліся прыцягнуць увагу не толькі да ацэнкі асобных твораў, але і да становішча нацыянальнай кінематаграфіі наогул.

«Рэспубліка жыве дынамічным, цікавым жыццём, — пісаў рэцэнзент газеты «Знамя юности» ў нумары за 1 кастрычніка 1964 года. — Каб пераканацца ў гэтым, варта прагледзець газеты хаця б за адзін дзень. А добрых фільмаў аб сучаснасці пакуль не выпусціла студыя. На яе тэхнічную аснашчанасць спасылацца не даводзіцца. Значыцца, усё залежыць ад творчых работнікаў, ад сцэнарыстаў і рэжысёраў. Калі ж мы, нарэшце, убачым плённыя вынікі іх працы?».

Той жа думкі прытрымліваўся рэцэнзент газеты «Звязда» (18 верасня 1964): «Успамінаючы асобныя кінастужкі мінулых гадоў, варта яшчэ і яшчэ раз падкрэсліць неаспрэчную ісціну. Студыі «Беларусьфільм» трэба больш крытычна падыходзіць да падбору сцэнарыяў, пазбягаць выпадковага літаратурнага матэрыялу, больш поўна спалучаць пры пастаноўцы новых кінафільмаў вопыт старэйшых майстроў кіно і наватарства маладых. А сілы на студыі ёсць».

Так, сілы, вядома, ёсць. Чаму ж тады ідзе час, развіваецца вобразная мова кіно, узнікаюць у жыцці новыя праблемы і канфлікты, якія патрабуюць мастацкага асэнсавання на экране, але не змяншаецца паток кінасурагатаў? Паспрабуем адказаць на гэта ў наступным артыкуле.

## Паэтычная ПАВЕРКА

### Віктар ГАРДЗЕЙ

●

Лепей не прымаць такіх
гасцей,
Што дамоў на нейкі дзень
прыедуць!
Вунь і маці вочы ўсё часцей
Выцірае... Ды заве абедаць.

Пляшка медавухі на стале,
Нібы чапля выцягнула шыю.
І цясней у хаце і святлей,
Калі дома госці дарагія.

З радасцю адзінай, што браты
Правядуць мяне аж на
гасцінец,
Пакланюся ўсім я перад тым,
Як хаціну родную пакінуць.

І напомніць нізенькі вушак
У той міг, як рушу у дарогу,
Што прыгнуцца трэба
і ў дзвярах
Пакланіцца роднаму парогу.

### Леанід АНОП

●

Я кветкі не маме куплю,
А вельмі прыгожай дзяўчыне.
Будзе нявесткай,
А можа і не.
А маме—толькі паштоўкі,
Кароткія, цёплыя,
Сагрэтыя сэрцам, дыханнем.
Пішу, што прыеду на свята
дамоў.
Мы з ёй прагаворым да
пеўняў,
Што пецъ пачынаюць раней,
Чым мама раскажа
Пра вёску,
пра сад,
пра сябе.
Выйду...
Вёска мяне сустрэне
Ветразем дыму.
І я пасуму па светлым
дзяцінстве сваім,
Якое паехала ў горад аднойчы
На дзень.
І не вярнулася...

●

Бязважкасць рук,
Бязважкасць вуснаў,
Бязважкасць добрых слоў.
А я цябе шукаю зноў
На соннай вуліцы
І вузкай,
Ліхтар
Глядзіць падбітым вокам.
Тут ні рэкламы, ні таксі.
Ты мне ў далонях прынясі
Свае ўсмешкі...
Ціха, лёгка
Зайдзі ў пакой.
Прысядзь.
Скажы
Што сумна ў мяне,
Што цэлы дзень ідуць
дажджы,
Што кветкі на вакне
Даўно завялі,—так скажы...

### Таіса БОНДАР

●

...І ветразем лёгкім, крылатым
Па лужынах хмарка плыве,
Каб з ценем заблытацца
раптам
І знікнуць у мокрай траве.
Сграбыстыя рэйкі праклалі
Вінты самалёта ўгары.
І дрэвы—зялёнаю хваляй
Да хаты бягуць паўз двары...

Ісці, колькі здолеюць ногі,
У свет, хай зусім невядомы!
Каб толькі хоць зрэдку дарогі
Прыводзілі ў казку—дадому.

### Віктар ЯРАЦ

## ВОСЕНЬ У ГРУЗІІ

Я стаю пад небасхілам Грузіі.
Восень. Жураўліная туга.
Вечарэе. Дрэвы ў ціхай скрусе.
Над зямлёю—смутак і смуга.
Наплываюць светлыя імгненні,
Адплываюць думкі і цяпло.
І плыве у ціхім задуменні
Птушкі развітальнае крыло.
Што было — бывай!
Прыходзь, што будзе!..
Недзе стынуць пушчы,
паплавы...
Я не мару аб ніякім цудзе,—
Толькі б не прысталі журавы.
Заклінаю неба, як язычнік:
Будзь для птушак добрым,
а не злым!

...І трывожна жураўлі
курлычуць,
Разгайдаўшы крыллем
небасхіл!

НОВЫЯ ЭСТАМПЫ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ



Р. КЛІКУШЫН. Віцебск. Мост праз Дзвіну. 1970 г. (лінагравюра).

## З пошты ЛіМа

# КАЛІ ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ СПАКОЙНА...

Як часта здараецца, што адзін чалавек прыносіць у цэлы калектыў той настрой, па якім тут даўно сумавалі, той агонь, энтузіязм, без якога так нецікава жыць. Такое ёсць у Зоі Канстанцінаўны Шынкевіч, маладога эканаміста Бабруйскага завода гумавых тэхнічных вырабаў. Камуніст, таленавіты арганізатар, ініцыятар самых нечаканых мерапрыемстваў, яна адразу зрабілася душою шматтысячнага калектыву. І найпершую сваю любоў аддала стварэнню заводскай мастацкай самадзейнасці. Сказалася даўняя прывязанасць, тонкае разуменне літаратуры і музыкі, тэатральнага і выяўленчага мастацтваў.

На завод яна прыйшла ў той час, калі тут ніяк не маглі стварыць сваю мастацкую самадзейнасць. На тысячы рабочых, таленавітай моладзі не хапала аднаго чалавека, які б арганізаваў гэтую моладзь, захапіў яе самадзейнай сцэнаю.

Сваім энтузіязмам Шынкевіч прыцягнула ўвагу маладога выкладчыка музычнай школы Аляксандру Куцэнка, і тая згадзілася працаваць з заводскімі вакалістамі. Амаль аднагодкі, абедзьве энергічныя, улюбёныя ў мастацтва. яны захапіліся адной справаю. пасябравалі.

Разам збіралі моладзь для вакальнай групы «Рамонак», разам праводзілі рэпетыцыі, падбіралі рэпертуар, пачалі бываць з канцэртамі ў іншых рабочых і сельскіх калектывах. Да іх цягнулася ўсё больш моладзі. З'явілася магчымасць стварыць шматгалосы хор. І хор быў створаны. У яго рэпертуар увайшлі песні Лучанка, Семянякі, іншых вядомых беларускіх кампазітараў. Пра хор загаварылі.

Слава прыйшла хутка, за якія два гады. І гэтак жа хутка хору не стала. Аляксандра Куцэнка раптам пакінула яго — ўсё разладзілася.

Што ж здарылася з Куцэнка, з хорам?

Калі гаворка пра гэта заходзіць з дырэктарам завода Анатолем Паўлавічам Хіманычам, той схільны думаць, што Куцэнка і загадчык заводскага клуба Аляксей Радзівонавіч Бялік не сышліся характарамі. І нічога, маўляў, не зробіш: складаныя людзі. Калі ж пагаварыць з гэтымі людзьмі, уважліва прыслухацца да іх поглядаў на самадзейнае мастацтва, то прычына выяўляецца іншая, далёкая ад прыватных капрызаў. Яны, вядома, не сябравалі, разыходзіліся ў поглядах на работу: Куцэнка ўсёй душою любіла хор, аддавала яму і час і сэрца, а вось Бяліку гэта не падабалася. Парадокс, але гэта так. Кіраўнік заводскай культурна-асветнай установы, клуба, мала клапаціўся аб ім, аб набыцці рэпертуару, аб тэарэтычнай і практычнай вучобе вакалістаў. Бяліку жыццё хору здавалася вельмі простым: пастаў людзей на сцэну і хай сабе спяваюць. Навошта мітусіцца з вучобаю, раз'ездамі, заводскі хор — для завода, у сябе ў калектыве як спяюць — так і добра. І калі хор вярнуўся на завод пасля паспяховага выступлення ў Магілёве і на рэспубліканскім конкурсе - аглядзе мастацкай самадзейнасці, ніхто за старанні слова добрага не сказаў харыстам. Наадварот, Бялік папракнуў, што ад гэтых паездак церпіць завод, людзей адрываюць ад працы...

Скончылася тым, што Куцэнка пакінула хор. Перагарэў агеньчык. Адпала і ў моладзі ахвота наведваць рэпетыцыі, ды і не стала каму кіраваць хорам.

Цяпер на заводзе, асабліва сярод маладых рабочых, пра гэта нямала гавораць. Прыгадваюць ранейшыя часы, калі такая ж гісторыя адбылася тут з ініцыятыўнай Ірынай Яўстаф'евай. Гэта энтузіястка самадзейнасці, у мінулым прафесіянальная актрыса, пачала працаваць мастацкім кіраўніком заводскага клуба. І адбылося тое ж самае. Загадчык клуба ўбачыў, што з Ірынай, як цяпер з Куцэнка, празмерна клопатна. «Зноў не сышліся характарамі». Чаму?.. Ды ўсё па той жа прычыне: Бялік лічыць, што галоўнае ў рабоце клуба — гэта своечасовая і расшыраная справаздача, а для Яўстаф'евай галоўнае было ў іншым — падняць мастацкі ўзровень і масавасць заводскай самадзейнасці, даць моладзі магчымасць выявіць свае мастацкія здольнасці, зацікавіць сапраўднай творчасцю, наладзіць у калектыве культурны адпачынак, мастацкае выхаванне чалавека.

Яўстаф'ева пакінула заводскі клуб раней.

Цяпер, праз паўгода, яго пакінула Куцэнка.

А хто прыйдзе сюды і пойдзе — заўтра?

На заводзе гумавых тэхнічных вырабаў у Бабруйску шмат моладзі. Тут павінны гучаць песні. Павінны! Так думае Зоя Шынкевіч. Але ўсе бачаць: згарае ў такой абстаноўцы і яе энтузіязм. Як жа! Такая непрабіўная заслона на шляху — сам дырэктар клуба Бялік. Яму. Бяліку, хочацца жыць спакойна.

М. БЯРЭЗІНСКІ.

# БІБЛІЯТЭКА-ІМЯНІННІЦА

Бібліятэцы імя Пушкіна, адной са старэйшых у Мінску, споўнілася 70 гадоў. Пытанне аб яе адкрыцці, пачынаючы з 1842 года, тройчы ўздымалася прагрэсіўнай інтэлігенцыяй горада. Але ўсе хадайніцтвы сяброў кнігі адхіляліся. Самадзяржаўе не было зацікаўлена ў распаўсюджванні асветы.

У 1899 годзе грамадскасць горада рыхтавалася адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння А. Пушкіна. Члены камітэта па ўвекавечанні памяці паэта вырашылі скарыстаць момант і зноў узнялі пытанне аб адкрыцці публічнай бібліятэкі і прапанавалі прысвоіць ёй імя Пушкіна. Прапанову горача падтрымалі мінчане, якія за кароткі час сабралі каля дзвюх тысяч кніг і паўтары тысячы рублёў для набыцця літаратуры. Гарадскія ўлады вымушаны былі падтрымаць энтузіястаў.

Неўзабаве гарадская дума ўхваліла Статут бібліятэкі, праект якога распрацавала спецыяльна створаная камісія. Але зацвярджаць яго губернатар не спяшаўся. Толькі ў ліпені 1900 года ён даў сваю згоду. 25 снежня 1900 года бібліятэка была, нарэшце, адкрыта. І хоць штат яе складаўся ў той час з трох чалавек (бібліятэкар, яго памочнік і вартаўнік), яна адыграла выключна важную ролю ў прапагандзе рэвалюцыйных ідэй сярод працоўных у гады першай рускай рэвалюцыі.

Бібліятэка імя Пушкіна была месцам сходаў рэвалюцыянераў. У яе фондах мелася нямала марксісцкай літаратуры: работы К. Маркса, Ф. Энгельса, П. Лафарга, У. Леніна. Выпісвалася бальшавіцкая газета «Новае жыццё».

У гісторыю бібліятэкі ўвайшоў дзень 1 сакавіка 1909 года, калі на пашыраным пасяджэнні праўлення быў выбраны ганаровым членам бібліятэкі Л. Талстой. Праз некалькі дзён Леў Мікалаевіч прыслаў тэлеграму, у якой дзякаваў за аказаны яму гонар.

Да рэвалюцыі бібліятэка абслугоўвала толькі гарадское насельніцтва. Жыхары Мінскай губерні былі пазбаўлены магчымасці карыстацца яе кніжнымі зборамі, ды і гараджане не ўсе маглі ўзяць кнігу, бо за яе трэба было плаціць.

Пасля перамогі Кастрычніка бібліятэка ператварылася ў сапраўдны культурны цэнтр горада. Была адменена плата за карыстанне кнігамі. Бібліятэка звязала свой лёс з лёсам народа, усімі сродкамі дапамагала будаваць сацыялізм.

У сакавіку 1938 года яна стала Мінскай абласной бібліятэкай імя А. Пушкіна. Перад вайной кніжны фонд яе склаў сто семдзесят пяць тысяч кніг.

Фашысты знішчылі і разрабавалі ўсе яе кніжныя багацці. Пасля вызвалення Беларусі з дапамогай мінчан былі сабраны першыя сотні кніг. Шмат іх бібліятэка атрымала з Масквы, іншых гарадоў нашай краіны.

Зараз абласная бібліятэка — навукова-метадычны і бібліяграфічны цэнтр вобласці. У фондах яе каля чвэрці мільёна кніг.

Сёлета абласная бібліятэка справіць наваселле — для яе будуецца сапраўдны палац. Чытальныя залы новай бібліятэкі змогуць змясціць восемсот чытачоў. Новае памяшканне, новая тэхніка памогуць лепш абслугоўваць наведвальнікаў.

Зараз на Міншчыне працуюць больш тысячы бібліятэк. Мы імкнёмся дапамагаць сваім калегам добрым словам, парадай, вопыт лепшых прапагандыстаў кнігі стараемся зрабіць здабыткам усіх.

Н. БАЛУКОВА,
дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна.

Адзін з самых старажытных гарадоў нашай рэспублікі—Навагрудак стаў месцам паломніцтва турыстаў і экскурсій. Летам яны амаль кожны дзень бываюць у горадзе. Дастаткова сказаць, што толькі энтузіястам мясцовага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры сёлета даводзілася весці экскурсіі турыстаў з Польскай Народнай Рэспублікі і Літоўскай ССР, школьнікаў Мінска і Ліды, спартсменаў і ўдзельнікаў рэспубліканскіх і абласных семінараў работнікаў культуры і г. д. Ды і ў гэтыя зімовыя дні ў суботу і нядзелю можна сустрэць аўтобусы і аўтамабілі з Прыбалтыкі і Беларусі, Польшчы.

Натуральна, што любую экскурсію перш за ўсё цікавяць месцы, звязаныя з жыццём выдатнага польскага паэта Адама Міцкевіча, дом-музей паэта. Нягледзячы на тое, што ў музеі ідзе зараз капітальны рамонт, да яго ідуць экскурсанты. Нядаўна пабывалі студэнты з Вільнюса, некаторыя цікаўныя праніклі ў залы, дзе працуюць афарміцелі новай экспазіцыі. І мне давялося пачуць вельмі непрыемнае: «Чаму навесілі так многа ілюмінацыі?»

Гэта не першае крытычнае выказванне ў адрас афарміцеляў дома- музея. Раней выклікала наракання ў наведвальнікаў, тое, што сцены афарбаваны ў розныя колеры. Людзі прасілі, каб было больш сціпласці, менш крыклівасці, менш мадэрну. Але мастакі не прыслухаліся да гэтых заўваг. Сцены ў кожнай зале і зараз афарбаваны ў розныя колеры, у тым ліку і крывавачырвоны.

# НЕПАТРЭБНЫ МАДЭРН

А цяпер з гэтым электраасвятленнем. Афарміцелі, мякка кажучы, перамудрылі. У апошняй зале, якая мае тры вялікія акны, устаноўлена 24 люмінісцэнтныя лямпы Лямпы давяць на чалавека, здаюцца цяжкімі, няўклюднымі, недарэчнымі, ад іх патыхае безгустоўнасцю. Такой ілюмінацыі могуць пазайздросціць хіба што работнікі рэстарана або палаца культуры, але не музея.

Сваё абурэнне выказвала афарміцелям і загадчыку раённага аддзела культуры новы дырэктар дома-музея, энергічны і дзелавы чалавек Ніна Іларыёнаўна Гурына. «Але мяне не паслухалі, — засмучана разводзіць яна рукамі. — Гавораць, што такі праект рэканструкцыі музея зацверджаны на мастацкім савеце».

Але хто б там ні зацвярджаў, праект трэба пераглядзець, зняць светлавыя «эфекты», паставіць свяцільнікі, якія па форме былі б падобныя на тыя, што знаходзіліся ў доме пры жыцці паэта і яго бацькоў.

І. КАЗАЧОНАК,
адказны сакратар раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, член Саюза журналістаў СССР.

Ён першым рушыў у бок Дняпра, а за ім пацягнуўся доўгі нястройны ланцуг людзей. Каго толькі тут ні было. Дзеці на руках. Басаногія хлопчыкі і дзяўчынкі, што трымаліся за рукі маці. Старыя, абшарпаныя, даўно няголеныя дзядзькі, хмурыя і маўклівыя. Зброі, амаль ні ў кога не было. Ішлі лесам, густым, непралазным. Драпалі рукі і твары, апошнюю і да гэтага ўжо зношаную вопратку.

Па лесе слаўся горкі дым, не толькі той, тарфяны, да якога мы даўно прывыклі... Было горача і душна. Кашулі на плячах прамоклі.

Сяргей, панурыўшы галаву, пазіраў на мяне і нібы хацеў сказаць: «Ну, што? Помніш данецкія стэпы? Хіба не так? Толькі тут лес, а там зямля як бубен... А кулі і снарады, — яны ўсюды аднолькавыя... Вось табе і далёкі тыл...»

Наперадзе атрымалася нейкая замінка. Тыя, хто нёс параненых, паклалі насілкі на зямлю.

Праходзячы з Сяргеем наперад, мне кінулася ў вочы прыгожая маладая дзяўчына, што ляжала на насілках, адкінуўшы галаву. Твар яе быў збялелы, і можа таму так выразна выдзяляліся густыя чорныя бровы і такія ж чорныя вейкі, што прыкрывалі зажмураныя вочы. Я чуў дагэтуль пра кіеўскую студэнтку, вядомую дыверсантку, якая хадзіла падрываць варожыя цягнікі за сотні кіламетраў. І аднойчы, яшчэ ранняй вясной, вяртаючыся з задання, каля Дняпра трапіла на засаду, была паранена ў жывот, але ў яе яшчэ хапіла сілы прайсці па ледзяной вадзе-верхаводцы і вярнуцца ў лагер. Гэта, напэўна, яна, Аксана... Ці выратуем мы яе, ці астанецца жыць? У нас мала было медыкаментаў, а тут яшчэ такая навала...

Аказалася, што хутка павінен скончыцца лес, а там пачнецца прыдняпроўскі луг з рэдкім кустарнікам, і Лёня паслаў разведку, каб упэўніцца, што там, наперадзе.

Калі мы спыніліся, то стала выразна чуваць, як там, адкуль мы выйшлі, грымела артылерыя. Бой не сціхаў. У дадатак да ўсяго ў паветры з'явіліся «юнкерсы». Яны кружылі і пікіравалі далёка ад нас, на тым месцы, дзе ішоў бой.

А што, калі яны выявяць нашу пераправу?

Далей мы ўжо пайшлі амаль подбегам між лазняка і алешніка аж да самага Дняпра з пясчанымі берагамі і густымі зараснікамі лазы-ракіты, якая так прыемна пахне, калі правядзеш па ёй рукой, або прытопчыш галінку.

На беразе нас ужо чакалі чаўны. На іх стаялі хлопцы з вёсламі і шастамі.

— Перш-наперш давайце дзяцей і раненых, — крыкнуў Лёня, што стаяў каля самай вады побач з Рыгоравічам. Аўтамат у яго быў перакінуты цераз плячо, каб рукі былі вольнымі.

Людзі, хто дужэйшы, як па камандзе сталі ў рад.

Малых, як нейкую эстафету, перадавалі з рук у рукі. Іх там прымалі Лёня з Рыгоравічам і беражна падавалі хлопцам на чаўны. Заўзята працавалі ўсе: Ігар, Валянцін і іх сябры.

Калі чаўны былі напоўнены, хлопцы дружна адпіхнуліся ад берагу і ўрэзаліся ў хвалі сівога Дняпра.

Я сядзеў на чыстым, нібы цукар, пяску пад ракітай і пазіраў на той бераг. Сярод рэдкіх каржакаватых сосен, што падступалі да самага берагу, віднеліся знаёмыя беларускія хаты з пачарнелымі дахамі, раскіданыя так, дзе якой было ўтульней. А далей ад берагу віднеліся доўгія драўляныя будынкі, напэўна, кароўнікі або свінарнікі, такія ж пачарнелыя ад часу.

Гэта была ўжо беларуская вёска, што стаяла на мяжы Беларусі з Украінай. Балюча зашчыміла сэрца. Вось яна, мая Беларусь! Колькі дарог прайшоў, колькі ліха пабачыў, а сваю Беларусь толькі ўбачыў краем вока. Пераступі толькі Дняпро і ты будзеш там, на роднай зямлі, хоць яна тут зусім не падобна на тую, што прасціраецца на Міншчыне. Хто ж там сустрэне вось гэтых малых, параненых, галодных і абшарпаных людзей?

Але вось, пабачыўшы на Дняпры чаўны, з хат пачалі выбягаць людзі. Кабеты такія ж босыя, як і нашы, што стаялі на гэтым беразе. На хаду нацягвалі на галовы хусткі.

Беларускія кабеты падтыкалі спадніцы і лезлі ў ваду, каб хутчэй прыняць на рукі тых малят, што гойдаліся на рачных хвалях. Яны, відаць, адчулі, ведалі, што на тым, украінскім беразе, началося нешта трывожнае, страшнае. Ды і адсюль добра відаць было, як пабліскваючы на сонцы, пікіруюць злыя дзюбатыя птушкі — нямецкія самалёты.

Нашым чаўнам не прыйшлося прыставаць да самага берагу. Кабеты з беларускай вёскі падхоплівалі малят на рукі і выносілі з вады. Ім памагалі такія ж басаногія ў зрэбных кашулях хлапчукі.

Чаўны імгненна апусцелі. Назад яны плылі яшчэ хутчэй, чым туды.

Цяпер ужо грузілі параненых. Дзяўчына з чорнымі брывамі і васковым тварам усё прасіла, лежачы на насілках:

— Дайце мне пісталет. Навошта вы яго забралі? Гэта мой пісталет. Аддайце...

Усе здагадваліся, навошта ёй пісталет. Калі яна ляжала ў нашым шпіталі, ёй было лягчэй, спакайней. А надышлі цёплыя дні, яе кожны дзень выносілі з зямлянкі на паветра. Перад ёй клалі букеты чаромхі, лясных кветак. У такія часіны яна нават усміхалася. Скрозь галінкі дрэў пазірала на сонца, слухала птушыны гоман. Тады ўсім думалася, — паправіцца, ачуняе чарнабрывая Аксана. А прыляціць самалёт, — яе адправяць у Маскву. Там ужо абавязкова яе выратуюць, вырвуць з кіпцюроў смерці. Цяпер жа, несучыляснымі гушчарамі, відаць, моцна патрывожылі яе рану, і Аксана пакутвала ад нясцерпнага болю. Каля яе завіхалася наша Тоня. Яна змочвала ёй губы вадой, прыкладала да галавы мокрыя бінты і нічога больш зрабіць не магла. Некаторыя кабеты, прыкленчыўшы каля Аксаны, плакалі, — ціха, бязгучна, выціраючы краем хустак слёзы. Яе беражліва перанеслі ў човен. А стройны, высокі Лёня нават нахіліўся і засмучона пацалаваў яе ў шчаку. І мне здалося, што Аксана ласкава ўсміхнулася пры гэтым, нібы апошні промень сонца, што ўсміхаецца зямлі перад змярканнем.

Адсюль відаць было, як яе выносілі з чаўна. І тыя хлопцы-аўтаматчыкі, узняўшы на руках насілкі, панеслі яе па жоўтым пяску паміж сосен, некуды далёка за вёску...

Хлопцы з таго чаўна, што перавозілі Аксану, вярталіся назад са знятымі шапкамі.

— Памерла Аксана, — першымі трывожна загаласілі жанчыны.

Лёня ўвесь збялеў, рэзка павярнуў шапку казырком наперад і нацягнуў яе на вочы. Здаецца, дрыжыкі прайшлі па яго целе. Дзед Рыгоравіч жагнуўся і сціснуў кулакі.

Калі човен прыстаў да берагу, усе маўчалі. Нават жанчыны перасталі галасіць і енчыць. Цяпер яны садзіліся ў чаўны, што адзін за адным мітусліва снавалі паміж берагамі — украінскім і беларускім.

— Коні топяцца! — пачуўся раптам поўны роспачы крык.

Крыху ніжэй хлапчукі замотвалі коням на шыі павады аброцяў і пускалі ўплаў. Коні моцна фыркалі, разганяючы шырокімі ноздрамі дробныя хвалі. Некаторыя, праплыўшы з дзесятак метраў, наравілі вярнуцца назад і выскачыць на бераг. Тады хлапчукі станавіліся паўкругам, з крыкам і гіканнем махалі рукамі і галінкамі і заганялі іх назад у ваду. Некаторыя, відаць, найбольш прывычныя, плылі спакойна і ўпэўнена. Над вадою віднеліся толькі іх галовы, шырокія спіны, цераз якія пераліваліся вада, ды хвасты, распушчаныя на вадзе, нібы венікі.

Толькі ж цяжка каню, як і чалавеку, аднаму змагацца з шырокай і магутнай плынню Дняпра. На сярэдзіне яна кіпіць і віруе, аціхае і спакайнее толькі каля берагоў. І якраз на сярэдзіне коней пачало зганяць уніз. Ці яны выбіліся з сіл, ці плынь там была такая імклівая, але яны не вытрымалі адзінаборства з Дняпром.

Ніхто не ведаў, ды нам і не было калі разглядаць, што там, ніжэй, Дняпро быў перагароджаны невадамі. І вось першы, чарнагрывы, з завостранымі вушамі, важак усяго табуна, крануўся невада. Ён паспрабаваў адарвацца ад яго, напружыў усе сілы, але ногі яго моцна заблыталіся ў невадзе. Пачулася ні то іржанне, ні то прызыўны кліч, ды моцна трымаў яго невад. Чым больш конь біў нагамі, тым больш заблытваўся. Змагаўся ён доўга і ўпарта. Нарэшце выбіўся з сілы. Дняпро ўпарта і настойліва паглынаў варанога, пакуль на паверхні не забулькаталі толькі адны бурбалкі. Другія коні, відаць, былі слабейшымі. Яны ішлі на дно адразу...

— Невады секчы! — закрычаў Рыгоравіч.

Хлопцы з фінкамі пабеглі да берагу. На хаду скідалі з сябе верхнюю вопратку і адразу кідаліся ў ваду. Яны, як асатанелыя, рэзалі, крэмсалі невады, сцягвалі іх на бераг, а самыя смелыя і лоўкія плыўцы стараліся выблытаць коней з гэтай здрадлівай сеткі. З таго берагу падплыў і разгружаны човен. І там пачалі рваць і шкуматаць невад, пастаўлены на рыбу, а нам на вялікую бяду.

Вось табе і ціхая пераправа без бамбёжак і артабстрэлу, без стракатання аўтаматчыкаў!

На тым баку былі ўжо усе: і параненыя, і жанчыны, і дзеці. І той хлопчык з маці-настаўніцай, што прыйшлі з суседняга разбітага атрада. Былі ўсе, але не было ўжо Аксаны...

З таго боку і ўкраінскія і беларускія жанчыны махалі нам хусткамі і рукамі, нешта крычалі, склаўшы далоні каля вуснаў, але мы нічога пачуць не маглі.

Апошнім пераязджаў начальнік грамадзянскага лагера Рыгоравіч. Раней, чым сесці ў човен, ён паважна разгладзіў вусны, паправіў на плячы мадзярскую вінтоўку, з кожным абняўся і пацалаваўся. Перш за ўсё падышоў да Лёні.

— Дзякуй, сынок! Перадай там Бацьку-камандзіру, што ўсё ў парадку. І дзеці яго з намі. Я ўжо як-небудзь паклапачуся. Тут пакуль што ціха. Пададзімся туды, у беларускія лясы. Я ведаю тут такія мясціны, што і сам чорт нас не знойдзе. Ну, а наконт харчоў, дык, думаю, нашы суседзі дапамогуць. Да вайны мы ж з імі спаборнічалі, ездзілі адны да адных у госці, а часам і спрачаліся, канечне, хто лепей план выканаў па ўсіх стаццях... І вам, сынкі, дзякуй, — звярнуўся ён да нас усіх. — Нізка кланяюцца вам і дзеткі, і кабеткі нашы...

Ужо з чаўна, адштурхнуўшыся ад берагу, ён спагадліва звярнуўся да Лёні:

— А ты, сынок, трымайся... Пахаваем з пашанай, па нашым хрысціянскім звычаі. На самым відным месцы. І чырвоную зорку паставім, каб усе бачылі...

Гора Лёні перадалося нам усім. У кожнага да горла падкаціўся балючы камяк, зашчымела сэрца. Мы моўчкі сядзелі на чыстым жоўтым пяску пад ракітамі і пазіралі на той, апусцелы ўжо бераг. Вярнуліся адтуль хлопцы-аўтаматчыкі, моўчкі павылазілі з чаўноў. Мы развіталіся з перавозчыкамі, і яны хуценька адзін за адным, амаль упрыцірку, пагналі чаўны да берагу ў заводзь у густыя чароты...

Мы чакаем маці Лёні. Калі пачалася пераправа, яна пайшла да нашага партызанскага млына, што стаяў на рацэ каля крутога берагу на самай быстрыні кіламетры тры адсюль. Дняпро круціў драўляныя колы, нібы ў параходзе, скрыпелі каменні, а па латаку сыпалася, хоць і груба змолатая, але ўсё ж такі мука, з якой мы пяклі хлеб і праснакі, варылі заціркy. Гэты млын адначасова быў і нашым разведвальным пунктам. Сюды прыносілі патрэбныя нам весткі разведчыкі і сувязныя з таго берагу Дняпра, каб адсюль перадаць іх у штаб. Яна і пайшла па гэтыя весткі.

Мы зажураныя сядзелі на беразе Дняпра, чакалі Лёневу маці...

Цалуюць хвалі пясчаныя берагі, плешчуцца, пераліваюцца ў бясконцай плыні. Зачэрпнеш жменю вады з кавалачкамі сонца, зірнеш на яе і нібы бачыш усю Беларусь. Прыйшла яна сюды з-пад Пінска і Барысава, з-пад Гомеля і Оршы. Гоман задумных бароў і шумных бяроз прынесла яна з сабой. Калі б хвалі маглі гаварыць, яны, напэўна, расказалі б, як там змагаецца мая Беларусь, як ідуць у бой партызаны на Паліку і Стаходзе, каля ціхага Сожа і ля аршанскіх круч. Плешчуцца хвалі, звіняць, пераліваюцца на сонцы, але ў іх свая мова і мне яе не зразумець. Можа яны нясуць на сабе кропелькі крыві маіх сяброў, беларускіх партызан, роднай крыві? Яна, напэўна, растварылася на дробныя іскрынкі, злілася з сонцам і плыве ў далёкае мора.

Вось чаму, калі хлопцы пачалі мыцца, а некаторыя разуліся і палезлі ў ваду, я нават не зварухнуўся з месца. Я толькі магу зачэрпнуць жменю гэтай вады і ўзірацца ў яе, нібы ў люстэрка, каб пабачыць у ёй сваю Беларусь. Можа гэтая жменя вады прыплыла сюды якраз з-пад Мінска, з пакручастай Свіслачы, над якой у парку імя Горкага, дзе мы так любілі адпачываць, схіліліся, спляліся галінамі старыя вербы?

Я нічога не гавару хлопцам аб сваіх маркотных думках, хай мыюцца. Ім трэба быць свежымі і бадзёрымі, трэба набірацца сілы для новага бою...

Лёніна маці вярнулася. Яна прынесла сумныя весткі. Хлопцы-млынары расказалі, што з Кіева да Дняпра падышла вялікая калона немцаў з бронетранспарцёрамі, гарматамі і мінамётамі. Цяпер яны абсталёўваюць агнявыя пазіцыі і, напэўна, збіраюцца аднаўляць мост праз раку, разбураны партызанамі.

Самі млынары падагналі млын пад самую кручу Дняпра, замаскіравалі зелянінай, узялі ўсё, што маглі, з сабой: муку, крупы, рыбу і падаліся ў лагер. На месцы асталося толькі тры чалавекі-наглядальнікі. Яны будуць сачыць за кожным крокам карнікаў і аб усім дакладваць камандаванню.

— Падымайцеся, хлопчыкі, пайшлі і мы...

Сваю белую хустку яна зняла яшчэ па дарозе і цяпер размаўляючы з намі, камячыла яе ў руках. Відаць, яна дужа хвалявалася.

Мы моўчкі зірнулі адзін на аднаго. У вачах кожнага была трывога. Трывога і за лёс нашых атрадаў, за лёс усяго партызанскага краю, за тых людзей, якіх мы пераправілі на той бок. Ці паспеюць яны адысці далей у лес, пакуль туды не нахлынуць карнікі? Хоць бы наш шаноўны Рыгоравіч не зацягваў на доўга пахаванне Аксаны. Хоць бы ён нейкім чынам адчуў, што і на іх навальваецца вялікая бяда. Аднак мы ўпэўнены былі, што добрыя людзі іх папярэдзяць.

Лёнева маці, нібы самая старэйшая сярод нас, ішла наперадзе, несучы сваю пакамечаную хустку ў руках.

---

кі Аляксееўка на Магілёўшчыне, праслухаўшы казку пра Дзюймовачку, вельмі непакоіцца, ці не замерзне яна ў кветцы зараз, калі наступілі халады...

Кожны карэспандэнт расказвае дзеду Баюну аб сваіх добрых справах (а той, хто яшчэ не ўмее пісаць і дыктуе дарослым, абяцае дзядулі хутчэй навучыцца). І кожнаму рэдакцыя абавязкова адказвае ад імя Баюна Калыханавіча. Раз у месяц расказвае па радыё аб аўтарах лепшых лістоў і малюнкаў. Самым актыўным шле падарункі — зборнікі казак. Такім чынам рэдакцыя падтрымлівае ў дзецях і творчы пачатак, сотні сваіх казак з квяцістымі малюнкамі пасылаюць яны дзеду Баюну.

Цікава, што дзеці прымаюць Баюна Калыханавіча як зусім рэальную істоту, віншуюць са святамі, дзеляцца радасцямі і нягодамі. І гэтаму даверу да героя і папулярнасці яго садзейнічае, безумоўна, не толькі падбор тэкстаў, але і шчырыя, простыя інтанацыі артыста Ігара Лапцінскага, нязменнага выканаўцы гэтай ролі. Лапцінскі часам сам спявае і калыханкі, і гэта таксама атрымліваецца ў яго шчыра і натуральна.

— Але пры ўсёй сімпатыі да дзеда Баюна, — расказвае рэдактар перадачы Ніна Сасноўская, — нашы маленькія слухачы, пэўна, засумавалі б, калі кожны вечар чулі адзін і той голас. Таму мы гаворым ім, што Баюн Калыхачавіч пайшоў шукаць новыя казкі, а тыя, што ён пакінуў у мяшку, прачытаюць яго сябры. Нашы перадачы многа выйграюць ад таго, што казкі чытаюць вопытныя артысты — Л. Ржэцкая, С. Станюта, Р. Маленчанка, М. Захарэвіч, У. Говар-Бандарэнка, А. Кашкер і іншыя.

Захавалася ў нашым архіве многа казак у непаўторным выкананні Глеба Паўлавіча Глебава. Дзеці чулі аб іх ад сваіх старэйшых братоў і сясцёр і часта просяць іх паўтарыць...

Мы вельмі ўдзячны гэтым акцёрам, а таксама пісьменнікам С. Грахоўскаму, А. Вольскаму, А. Пальчэўскаму, М. Даніленку і ўсім іншым, якія супрацоўнічаюць з намі, казкі якіх ведаюць і любяць дзеці. Ёсць у нас і сапраўды цудоўныя калыханкі Я. Цікоцкага, Я. Глебава, Ю. Семянякі, Б. Ямпольскага, С. Альхімовіч у выкананні Т. Раеўскай, В. Шангіной, І. Лапцінскага.

І ўсё ж... Калі чытаеш, што ў Чэхаславакіі для Байбаіна пішуць 200 пісьменнікаў і 70 кампазітараў, яшчэ раз адчуваеш, як нялёгка дастаецца нам наша перадача. Мала, вельмі мала пішуць у нас у рэспубліцы для дзяцей, мала выдаецца зборнікаў казак. Даводзіцца шукаць матэрыял ў выданнях іншых рэспублік і краін. Карыстаючыся выпадкам, хачу яшчэ раз звярнуцца да пісьменнікаў і кампазітараў: пішыце для нас!

Хай заўсёды будзе поўным чароўны мех Баюна Калыханавіча, бо яго казак чакаюць дзеці А гэта такая шматлікая і ўдзячная аўдыторыя...

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**

---

**Калектыў Міністэрства культуры БССР выказвае спачуванне супрацоўніцы міністэрства Марыі Іванаўне Пісарык з выпадку смерці бацькі.**

# ЧАСОПІСЫ Ў СТУДЗЕНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Нумар адкрываецца кінааповесцю І. Шамякіна «Эшалон у Германію». Часопіс друкуе таксама аповесць Р. Сабаленкі «Падарожжа ў Рослікі», апавяданне Б. Сачанкі «Соль», вершы Г. Бураўкіна, А. Бачылы, А. Зарыцкага К Камейшы, П. Пруднікава. Увазе чытачоў прапанаваны вершы паэтаў Паўднёвай Асеціі ў перакладзе Г. Кляўко.

Пад рубрыкай «Новыя пераклады» змешчаны апавяданні «Забойцы» Э. Хэмінгуэя, «Дачка» Э. Колдуэла (пераклаў з англійскай Я. Верабей) і «Разарый» В. Фолкнера (пераклаў з англійскай В. Сёмуха).

Знойдуць чытачы на старонках часопіса таксама нарыс А. Фомчанкі «Яны ідуць у заўтра», і артыкул В. Мялежкі «Крычаўскае паўстанне».

У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» надрукаваны артыкулы «Андрэй Шэмет, яго сябры і праціўнікі» Дз. Бугаёва (пра раман М. Лобана «Гарадок Устронь»), «Упоравень з днём сённяшнім» П. Дзюбайлы (да 50-годдзя з дня нараджэння Івана Шамякіна).

Раздзел з новай кнігі М. Джагарава «Мост на Свіслачы» апублікаваны пад рубрыкай «Успаміны, дзённікі, дакументы».

У нумары змешчаны рэцэнзіі на кнігі «Паэма дарог» С. Грахоўскага, «Панарама» А. Марціновіча, «Газета «Звязда» ў гады Вялікай Айчыннай вайны» М. Дасталкі.

## «МАЛАДОСЦЬ»

У першым нумары надрукаваны паэма Л. Дайнекі «Ключ», вершы Р. Барадуліна, Р. Тармолы, В. Матэвушава, В. Ракава, аповесць М. Вышынскага «На павароце», апавяданні В. Іпатавай.

Раздзел публіцыстыкі прадстаўлены рэпартажам «Рытм будняў» С. Кухарава, артыкуламі «Студэнцкі час» К. Шульга, В. Пісарэнка, В. Шулякоўскага, «Усяго адно падарожжа» А. Гардзіцкага, «Непагасная зорка» В. Ждановіча, «Паўло Тычына і Беларусь» (да 80-годдзя з дня нараджэння) П. Ахрыменкі.

Часопіс рэцэнзуе зборнік «У. І. Ленін і літаратура», кнігі «Адысей з Белай Русі» В. Гузанава, «Галасы» Л. Дайнекі.

## «БЕЛАРУСЬ»

Як звычайна, першыя старонкі часопіса прысвечаны працоўным будням рэспублікі. Гэта артыкулы «З паглядам уперад» П. Суцько і В. Турава (пра справы саўгаса «Зеляневічы» Пружанскага раёна), «Цудадзейны камень» Л. Зайцава (пра залежы даламіту на Віцебшчыне), «Будзе акадэмгарадок» Я. Рэзнікава (аб адкрыцці ў Магілёве філіялаў ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Інстытута фізікі і Фізіка-тэхнічнага інстытута), нарыс В. Нупрэева «Брыгадзір», нататкі журналіста «Хлеб і людзі» Л. Толкача, памфлет А. Бажко «Ультыматум «святога».

У нумары надрукаваны апавяданні «Навагодняя ёлка» В. Мысліўца, «Учынак» В. Хомчанкі, працяг аповесці «А восьмай вечара...» Д. Маеўскай (пераклад з польскай М. Паслядовіча), вершы П. Броўкі, М. Хведаровіча, Ул. Скарынкіна, Р. Тармолы, а таксама ўкраінскага паэта Міколы Нагнібяды (пераклад М. Калачынскага).

Артыкул Т. Хадкевіча «Творчая сталасць» прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння Івана Шамякіна.

У часопісе змешчаны рэцэнзіі на кнігі «Вялікі майстар публіцыстыкі» М. Зярніцкага, «Эстэтычныя погляды Якуба Коласа» А. Майхровіча, «Снежныя грамніцы» Я. Янішчыц, «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» І. Бялькевіча.

## «НЕМАН»

Часопіс друкуе пачатак рамана М. Кругавых «А зязюля кукавала...», апавяданне М. Гроднева «Наваселле» (пераклаў з беларускай Ул. Кудзінаў), вершы Ул. Карпава, М. Цялічкі.

У раздзеле «Публіцыстыка» змешчаны артыкулы «Насілле і сродкі масавай інфармацыі» (нататкі з выпадку калоквіума ў ЮНЕСКА) С. Паўлава і «Нябачны смерч» (пра ахову прыродных багаццяў зямлі) В. Еўціхевіча.

Часопіс працягвае публікацыю нарыса «Шляхі і скрыжаванні» (з запісак сакратара райкома партыі) П. Лебедзева.

Да 50-годдзя з дня нараджэння Івана Шамякіна змешчана гутарка пісьменніка з карэспандэнтам часопіса, а таксама пісьмы, якія прыслалі пісьменніку чытачы.

Артыкул І. Ліцінецкага «Гэты дзівосны свет» надрукаваны ў раздзеле «У свеце навукі».

У нумары рэцэнзуюцца кніжкі «Абжыты кут» А. Асіпенкі, «Выбраная паэзія» М. Лермантава ў перакладзе А. Куляшова, «Беларуская савецкая музычная літаратура» Г. Глушчанкі і К. Сцепанцэвіча, «Галубіная крыніца» Н. Гілевіча, «Шматграннасць» Дз. Бугаёва.



# З НЕВЫЧЭРПНЫХ КРЫНІЦ

**ОПЕРА «ЗОРКА ВЕНЕРА» Ю. СЕМЯНЯКІ НА СЦЭНЕ ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР.**

Новая, трэцяя опера Юрыя Семянякі «Зорка Венера» сведчыць пра настойлівае імкненне кампазітара авалодаць «сакрэтамі» складанага музычна-тэатральнага жанру. Жывую цікавасць грамадскасці выклікаў і спектакль Беларускага тэатра оперы і балета, пастаўлены са шчырым захапленнем самабытнай творчай задачай — сродкамі working опернага мастацтва раскрыць вобраз Паэта, Максіма Багдановіча.

Так, Юрый Семяняка і аўтар лібрэта Алесь Бачыла звярнуліся да сапраўды ўдзячнай тэмы — лёс паэта, які ўвайшоў у духоўнае жыццё беларусаў як неад'емная яго частка. Мабыць самы «песенны» рамантычны паэт Беларусі — герой оперы!.. Якая шчаслівая задума лібрэтыста і кампазітара. Беларуская опера ўпершыню ўзнаўляе на сцэне такі характар — прафесіянальны літаратар, грамадзянін-мастак не далёкага мінулага, а нашага стагоддзя. Гэта было мэтай — раскрыць духоўны свет Багдановіча, чый голас з сардэчным болем і надзеяй гучаў у перадкастрычніцкае дзесяцігоддзе.

Работа аўтараў «Зоркі Венеры» цікавая ўжо тым, што адкрывае ў нас новы тэматычны абшар, на якім з поспехам выступаюць кампазітары братніх рэспублік (прыгадаем хоць бы «Тараса Шаўчэнку» Г. Майбарады, «Мусу Джаліля» Н. Жыганава, «Пушкіна ў выгнанні» Б. Шэхтэра, «Тактагула» Ул. Уласава, А. Малдыбаева і Ул. Ферэ).

Значная ў ідэйна-сэнсавых адносінах задума Ю. Семянякі і А. Бачылы паказаць паэта-патрыёта ў працы і марах: гэта актывізуе драматургічную ролю хору і народна-бытавога матэрыялу ў творы. Шчодрай рукой кампазітар рассыпае ў масавых, лірыка-бытавых сцэнах мноства народных напеваў, танцавальных мелодый, цытуе папулярныя мелодыі («Зорка Венера», «Ой, рана на Івана», «Слуцкія ткачыхі» і іншыя), пераінтаніруе і свабодна выкарыстоўвае элементы народнай музычнай мовы ў карагодах, калыханцы, песнях-жартах. Сплятаючыся, гэтыя мелодыі ўтвараюць квяцісты песенны вянок.

Тут і праявіліся мацнейшыя бакі лірычнага таленту Ю. Семянякі: шчырасць тону, натуральнасць і пластычная выразнасць рамансавага меласу. «Зорка Венера» — крок наперад у творчым росце аўтара. Скажам, у параўнанні з папярэдняй операй «Калі ападае лісце...» аўтар тут дэманструе большую ўпэўненасць у распрацоўцы аркестравай партыі. Адначасова партытура гаворыць і аб многіх непераадоленых яшчэ цяжкасцях, супярэчнасцях аўтарскіх шуканняў.

Перш-наперш спытаем — што за твор «Зорка Венера» ў жанравых адносінах? Ці опера гэта ва ўсіх яе жанравых кампанентах?

Аўтары вызначылі жанр твора тэрмінам «опера-паэма». Імкненне да жанравай навізны наогул характэрнае для сучаснай музычна-тэатральнай практыкі. Слова «паэма» дадзена, відаць, каб падкрэсліць імкненне стваральнікаў «Зоркі Венеры» да большай свабоды мастацкага мыслення і канструявання самой опернай формы. Але гаворка ідзе аб стварэнні іменна опернай формы, г. зн. формы музычна-драматычнага дзеяння. Дарэчы, лібрэта оперы звычайна ў літаратурнай першакрыніцы і з'яўляецца драматычнай паэмай. І заўсёды яно, гэтае музычна-драматычнае дзеянне, вызначаецца канфліктам і характарамі, адлюстраванымі ў лібрэта.

Драматургія ў лібрэта «Зоркі Венеры» даволі нечаканая, — герой сутыкаецца з пэўным фактам жыцця, часам застаючыся цалкам сузіральным, і ў яго творчым уяўленні нараджаюцца асацыятыўны роздум і вершы, якія ён (на фоне маляўнічага хору або нумароў балета) і занатоўвае ў сшытак. Аўтары «выводзяць» Багдановіча з актыўна і непасрэдна дзеючых асоб твора.

Напрыклад, бацька паэта спасылаецца на тое, што хворы Максім не мае права ехаць вучыцца ў Піцер, бо там клімат пагоршыць яго здароўе. Адразу ж Багдановіч успамінае матулю, якая, відаць, была больш добразычлівай да сына, — на сцэне ўзнікае вобраз маці, выконваецца «Калыханка». Як канцэртны нумар — гэта, мабыць, і цікава, тым больш, што і выконвае гэтую арыю салістка Л. Златава пранікнёна і хораша. Але ж адпаведна драматургіі гэтай мясціны оперы такі ход асацыятыўнай думкі героя нічым не апраўданы, бо маці наогул не пусціла б сына ў горад, дзе хвароба можа забіць яго!..

У лібрэта А. Бачылы характар героя атрымаўся даволі незавершаным. Хутчэй гэта ўмоўна-сімвалічны персанаж у пэўных настроях. Мантаж вершаў Багдановіча, якія гучаць «на музыцы», не стварае поўнага вобраза паэта. Акружаючыя героя персанажы і непраясненыя матывы іх паводзін (напрыклад, Машы, юнака і дзяўчыны, бацькі) пазбаўляюць дзею драматычнага напружання, так патрэбнага «раману ў музыцы».

Але кампазітар цалкам пагадзіўся з такім лібрэта. Імкнучыся правесці важную думку аб патрыятызме Багдановіча, Ю. Семяняка, амаль зусім не маючы драматургічнага грунту ў лібрэта, напісаў многа харавых сцэн у страфічнай або трохчасткавай форме з вельмі сціплым развіццём, г. зн. даў іх статычнае музычнае вырашэнне. І што б ні вынаходзілі рэжысёр С. Штэйн, харэограф С. Дрэчын, мастак Я. Чамадураў, у масавых сцэнах пераважае статуарнасць у выглядзе скульптурных кампазіцый хору (лінейных або маляўніча раскіданых), арнаментальных кампазіцый і «жывых сцэн» балета. Оперныя эпізоды з элементамі музычна-сцэнічнага дзеяння — сцэна Машы і Максіма, Пятра і Максіма, Веранікі і Максіма, Максіма і бацькі і іншыя — бедныя не толькі драматычным дзеяннем, але і па музыцы ўступаюць харавым сцэнам. Тое, як напісаны твор і як ён пастаўлены на сцэне, набліжае «Зорку Венеру» да тэатралізаванай кантаты. Гэта — відовішча на тэмы Багдановічавых вершаў і ілюстрацыі да некаторых старонак біяграфіі паэта.

У сувязі з музычным вырашэннем вобраза Максіма і ўвасабленнем тэкстаў М. Багдановіча ў творы Ю. Семянякі хачу адзначыць асаблівую складанасць і актуальнасць задачы, якую трэба было вырашыць кампазітару. Важнай стылявой асаблівасцю сучаснай музыкі цяпер робіцца імкненне кампазітараў узнаўляць творчае аблічча паэта, раскрываць індывідуальныя ўласцівасці мыслення, інтаніравання, рытму і рыфмы яго паэтычнай мовы. Выдатных поспехаў у гэтым удаецца дасягнуць кампазітарам, якія валодаюць багатым арсеналам выяўленчых сродкаў, адточаным прафесіянальным апаратам. Якія непаўторныя творы Г. Свірыдава на тэксты С. Ясеніна і У. Маякоўскага, як своеасабліва гучаць рамансы А. Багатырова на словы М. Багдановіча і М. Лермантава! У оперы «музычны вобраз паэта» тым больш павінен быць «здабытым» з сутнасці яго творчасці, з духу яго паэзіі, ваяўнічай і драматычнай, лірычна-спавядальнай.

У «Зорцы Венеры» часта адчуваецца стылявая неадпаведнасць вершаў М. Багдановіча і музыкі Ю. Семянякі. Кампазітару ўдаецца знайсці стылявы ключ да фальклорных матываў творчасці Багдановіча — хоры «Абляцелі кветачкі» і «У Максіма на кашулі». Псіхалагічна ж складаныя, філасофскі змястоўныя вершы, метафарычны роздум, драматычныя маналогі, тонкая інтымная лірыка не атрымліваюць глыбокага водгуку ў музыцы. Мне здаецца, што і «Маладыя гады» па думцы, вобразным, інтанацыйным ладзе значна складанейшыя, багацейшыя за тую плакатную стылістыку ў духу масавых песень 30-х гадоў, якую дае Ю. Семяняка. Вядомае ж «Беларусь, твой народ дачакаецца» аказалася наогул музычна невыразным, прахадным эпізодам у манатоннай заключнай сцэне ў Ялце. Абапіраючыся на песенную інтанацыю або прытрымліваючыся вядомых інтана-

# ПА АБОДВА БАКІ РАМПЫ

*Спектакль абмяркоўваюць дзеці*



У фае лялечнага тэатра «бушавала» дзятва... Ставілася п'еса М. Карабельнік па матывах казкі К. Гоцы «Апельсіны і прынц».

Да пачатку прадстаўлення заставалася яшчэ некалькі хвілін. Здавалася, гэтыя белыя, ружовыя, блакітныя, бэзавыя банты і джэмперы ніколі не рассядуцца. Яны нагадвалі стракатую мазаіку, раскіданую па вялізнай дошцы, якую пагойдвала чыясьці магутная рука.

Але нарэшце дзверы залы адчыніліся, і мазаіка «пацякла» вузенькім ручайком, потым разлілася па крэслах і нечакана застыла. У цішыні толькі чулася ўсхваляванае дыханне і гучныя ўздыхі:

— Ух!.. Ох!..

— Ох!.. Ух!..

Бедны кароль мітусіўся ў сваім палацы: яго адзіны наследнік прыгажун Тарталья невылечна хворы. Забываючы пра сваё высокае становішча, кароль плакаў. Гавораць, што хвароба можа адступіць, калі прынц засмяецца. Але хто, хто яго насмешыць?

— Ох!.. Ух!..— перажывае глядзельная зала.

Нарэшце, прынц засмяяўся. Аднак злосная фея Маргана не супакоілася: злосныя феі добра ведаюць сваю справу. Яна прымушае прынца адчуць нясцерпную страсць да трох апельсінаў. На шляху да іх—д'ябал Фарфарэла, страшэнная волатка Крэонта, змеі, вятры, пустэчы...

Але Тарталья перамог усіх ведзьмароў і злосных фей, таму што быў добры, мужны і разумны!

На сцэне ігралася чароўная казка «Апельсіны і прынц». І не менш яскравае прадстаўленне можна было назіраць у глядзельнай зале. Яго героямі былі рэальныя дзеці са сваім вялізным светам фантазіі, перажыванняў і пачуццяў.

Я прыкідвала, да каго б мне звярнуцца пасля спектакля, узяць інтэрв'ю, атрымаць, як кажуць, вусную рэцэнзію, і ніяк не магла спыніцца: яны падабаліся мне ўсе. Потым я вырашыла выбраць самую смяшлівую дзяўчынку—яна смяялася гучней і ахвотней за іншых, самага

цыйных формул率 опернай класікі, кампазітар нівеліруе самабытнае багацце паэтычнага слова М. Багдановіча. Тут, відаць, прычына многіх творчых пралікаў кампазітара.

Заўважу, што і ў рэжысуры ёсць тэндэнцыя «перакладаць» вобразную мову паэтычных твораў Багдановіча на мову бытавых сцэнічных падрабязнасцей. Напрыклад, каб перадаць настрой і сутнасць натхнёнага «Васількаў» і «Слуцкіх ткачых», пастаноўшчык дае ў рукі героя літаральны — відавочна бутафорскі! — букецік кветак. Дарэчы, і ў Крыме васількі наогул наўрад ці маглі раптам выклікаць думку пра Беларусь. І тэма вершаў гучыць празмерна канкрэтна, вобраз прызямляецца.

Інструментальная партытура «Зоркі Венеры» не вельмі багатая (яна, праўда, выразна выконваецца аркестрам пад кіраўніцтвам К. Ціханава). Аркестравая партыя пераважна дубліруе харавое двухгалоссе, акампаніруе. Кампазітару і ў гэтай оперы яшчэ не хапае, асабліва ў драматычных эпізодах, умення распрацоўваць інструментальны тэматызм, развіваць музычную тканіну. Самастойныя аркестравыя фрагменты (напрыклад, уступ да апошняй карціны, фінал) пабудаваны на лейттэмах, якія механічна супастаўляюцца і складаюць даволі стракаты калейдаскоп.

Трошкі пра выканаўцаў. Нават у межах прапанаванага аўтарамі матэрыялу большасць салістаў не садзейнічала паглыбленню тэатра ў паэтычны свет Багдановіча. Побач з цікавай Веранікай — Л. Галушкінай, якая вельмі артыстычна ўвасабляе вобраз гераіні, даволі аўтаматычна выконваецца партыя Багдановіча А. Саўчанкам, і тут цяжка апраўдаць саліста толькі ілюстрацыйным характарам эпізодаў з яго ўдзелам у самой оперы. Цьмянай атрымліваецца Маша ў В. Садоўскай — актрыса толькі «паўтарае» тое, што напісана для яе аўтарам музыкі. Бяздзейсным унутрана застаецца бацька паэта ў артыста М. Здапевіча, але яму і няма чаго рабіць як актыўна дзеючай асобе: лібрэта адводзіць яму ролю для «падачы» рэплік, прызначаных выклікаць у Максіма пэўныя асацыятыўныя «адказы».

Беларускі тэатр оперы і балета паставіў оперу-паэму Ю. Семянякі з высокай мэтай — узбагаціць нацыянальны рэпертуар. Значная творчая работа. Яна наблізілася б да большай мастацкай дасканаласці і прынесла б больш плёну, калі б прапанаваная калектыву партытура была патрабавальна прааналізавана і ацэнена. Адносіны тэатра і кампазітара — гэта строга прынцыповыя адносіны прафесіяналаў, у роўнай меры адказных перад слухачом і музыкай, перад мастацтвам.

Трэба спадзявацца, што тыя ўдакладненні і папраўкі, якія і цяпер, пасля першых паказаў спектакля, робяць аўтары і рэжысура, унясуць у «Зорку Венеру» новыя мастацкія акцэнты і ўдасканаляць патрэбную і жаданую ў рэпертуары тэатра оперу.

Т. ШЧАРБАКОВА.

# А ЗАХОЎВАЦЬ ДОБРАЕ ТРЭБА!

Драма «Акіян» мае сваю сцэнічную гісторыю, і ў Гродне, беручы яе да пастаноўкі, мабыць, ведалі, што ў тэатры гэты твор часам гучыць як напружаны дыспут пра тое, якім павінен быць чалавек, калі хоча заставацца сумленным перад самім сабой і грамадствам, перад справай, якой ён служыць. Дыспут аб прызванні. І, здаралася, «Акіян» ставіўся і іграўся як спектакль пра жыццё марскіх афіцэраў, адзін з якіх чамусьці вырашыў, што ў мірныя часы зусім не абавязкова насіць мундзір, каб быць на вышыні патрыятычнага абавязку. Ведалі і тое, што ў трактоўцы п'есы на сцэне многае залежыць ад выканаўцы ролі Часоўнікава.



Ул. Карнеза — Часоўнікаў.

Яе даручылі маладому акцёру, выхаванцу Д. Арлова, Уладзіміру Карнезу, які летась на выпускных экзаменах паказаў, што яму наогул уласціва нешта «арлоўскае» — мы бачылі яго дзедам Міколам у бядулеўскім «Салаўі» і Прайдзісветам у «Мальеры» М. Булгакава. Работы былі грунтоўныя, акцёр паказаў, што ён дапытлівы, а не аўтаматычны выканаўца рэжысёрскіх заданняў, а гэта ўжо само па сабе абяцае артыстычную індывідуальнасць.

Цяпер ён—Часоўнікаў у «Акіяне» на гродзенскай сцэне. Які? Спытаем дакладней — ці ўдалося яму пранесці аўтарскую думку пра адказнасць таленавітага чалавека перад сваім сумленнем?

На жаль, Уладзімір Карнеза толькі намеціў гэты кірунак вобраза. І гледачы адчуваюць, што артысту было важна здабыць з тэксту ролі, напісанай А. Штэйнам вельмі ярка, усё, што робіць паводзіны персанажа блізкімі не толькі людзям вайсковага асяроддзя, а ўсім нам. Што ж перашкаджае яму вытрымліваць гэта на працягу спектакля? Скажу адразу — «Акіян» у Гродне якраз і пастаўлены як сцэны з флоцкага жыцця. Рэжысёр А. Струнін у свой час узначальваў Драматычны тэатр Балтыйскага флоту. ён ведае спецыфіку адлюстраванага ў драме жыцця і, мабыць, таму аддае перавагу маляўнічым, на яго погляд, распрацоўкам роляў і эпізодаў з падкрэслена ваенна-марскім каларытам.

...На авансцэне тры афіцэры. Паклалі рукі на плечы адзін аднаму. Спяваюць. Пра тое, што круціцца блакітны шар. Трошкі хістаюцца, быццам пад нагамі палуба. І спяваюць пра мерыдыяны і паралелі. Магчыма, гэтай песняй А. Струнін дае камертон спектаклю —вядомы «шлягер» мінулых гадоў, нешта знаёмае гледачам павінна настроіць іх на пэўны лад... Але да «Акіяна» ні тэма песні, ні яе тэкст не маюць ніякага дачынення. Гэта звычайны рэжысёрскі «дадатак» да драмы, дадатак, які адразу ж робіць усю размову аблегчанай, і зала рыхтуецца глядзець вясёлыя сцэны пра тое, што «я» не ведаю, дзе нам давядзецца сустрэцца, бо глобус круціцца, нібы блакітны шар... Так і канчаецца «Акіян» у Гродне. Часоўнікаў спяваў, спявае і будзе спяваць разам са сваімі сябрамі-афіцэрамі, а яго хістанні — гэта так, між іншым, па маладосці...

У ходзе спектакля ў героя У. Карнезы прабіваецца нешта больш істотнае. Скажам, мы адчуваем, што падлеткам ён па-кніжнаму ўспрыняў знешнюю прыгажосць паняццяў «афіцэрская годнасць», «марская рамантыка», «штурм паралеляў і мерыдыянаў»... Пайшоў вучыцца, атрымаў права насіць залатыя пагоны і корцік. Здавалася б, мэта дасягнута — служы! Добра, што У. Карнеза знаходзіць моманты, каб паказаць нешта накшталт «інтэлігентшчыны» ў характары Часоўнікава, тую маральную разгубленасць перад напорам паўсядзённых спраў і «чарнавой» працы ў службе, без якой сапраўднага мора (тым больш — акіяна!) не бывае. Малады чалавек унутрана пратэстуе, пярэчыць і не згаджаецца з неабходнасцю кожную хвіліну быць гатовым адказваць за свае ўчынкі па вялікім рахунку вайсковай прысягі і свайго сумлення. Шкада толькі, што такі Часоўнікаў мала дбае пра знешні афіцэрскі лоск, франтаватасць, нават пра камільфо. І тэкст акцёр вымаўляе дзяжурна, без наігранай свабоды, пабудзённаму мармытальна. Дарэмна гэта. Характар падаецца «наогул» маладога і неўраўнаважанага чалавека, гарэзы...

Дарэмна, на нашу думку, У. Карнеза перадае хістанні афіцэра Часоўнікава як істэрычны выпадак у нервовым напружанні героя. Гэта кідаецца ў вочы, побач з падкрэслена «жалезным» Платонавым, з якім, па сутнасці, і канфліктуе характар Часоўнікава. Платонава ў Гродне паказваюць па-плакатнаму антыподам героя У. Карнезы, нават здымаюць з вобраза і яму, Платонаву, уласцівую рысу сапраўднай інтэлігентнасці марскога афіцэра моцнага гарту і глыбокай адукацыі.

Роздум пра лёс пакалення, якое прымае эстафету ад старэйшых, тых, каму выпала прайсці выпрабаванне агнём, такім чынам, падаецца спрошчаным. Мараль тады зводзіцца да прымітыўнага выніку—маўляў, будзь працэйшы, адкінь мудрагельства, і пакутам тваёй душы будзе канец. Ах, каб жа пра гэта пісаў драматург! Ён браў тэму глыбей, сцвярджаючы, што быць у мірныя часы на ўзроўні сучасных патрабаванняў — гэта не так проста, гэта патрабуе маральных намаганняў, умення пераадольваць натуральнае жаданне пажыць у прыгожай цішыні без воінскіх статутаў...

Хочацца параіць Уладзіміру Карнезу больш пільна сачыць за ўнутраным стрыжанем ролі, развіваць тое, што ён ужо знайшоў для раскрыцця багатага характару. А для гэтага, відаць, спатрэбіцца і спрэчка з рэжысёрам, і здольнасць адмаўляцца ад таго, што «прыемна іграць». Напрыклад, у адной сцэне А. Струнін ставіць, а У. Карнеза ірае такі танны эфект. Часоўнікаў пасля пікіроўкі з буфетчыцай дастае з кішэні... чакушку гарэлкі. Выпівае. Буфетчыца налівае яму куфаль піва. Часоўнікаў — да дна! Смачна так п'е, з асалодай. Зала смяецца, зале падабаецца: зух! Над куфлем узнімаецца пена — яшчэ паўлітра! Часоўнікаў— на вышыні: п'е і гэта... «Дзвесце пяцьдзесят з двума прычэпамі»,— каменціруе нехта ў зале...

Ад такога расквечвання ролі трэба, вядома, рашуча адмовіцца. Правінцыяльны густ, калі адступіш ад сапраўднага толькі раз, забярэ артыста ў свой вір — не выплывеш. Пакуль што ў спектаклі «Акіян» ідзе барацьба ў акцёрскім выкананні ролі Часоўнікава — паміж тым, што артысту даваў Д. Арлоў і інстытут, і тым, што яму прапануе імклівае жыццё абласнога тэатра, дзе ставіцца многа п'ес і маладым даюць іграць многа роляў. Лічыцца, што «індывідуальнае» ў сцэнічны партрэт лягчэй за ўсё ўнесці з дапамогай песні (пра мерыдыяны і паралелі) і кожны раз новай манеры «асушваць бутэльку». Не, так удумлівым мастаком не робяцца, так акцёр штампуецца!

Таму і засталося ў мяне двайстае ўражанне ад Часоўнікава — Карнезы: вобраз вызначаны ім правільна па ўнутранай лініі, але акцёр вядзе яе пункцірам. Згаджаючыся на «эфекты» ў сцэнічных паводзінах, ён здрабняе фігуру героя. Не знаходзячы падтрымкі ў партнёраў, адмаўляецца ад «самога сябе» і не звяртае ўвагі нават на вымаўленне важных у тэксце фраз. А потым—на пэўны момант — праб'ецца ў ім нешта сваё, замацаванае некалі настаўнікам у інстытуце, і ты пачынаеш верыць, што У. Карнеза мае права на гэтую ролю, што ў яго добры акцёрскі «матэрыял», каб працаваць у сапраўдным мастацтве так, як Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў. А на гэта патрэбна і мужнасць. Я зычу У. Карнезу такой мужнасці.

Л. БРАНДАБОЎСКАЯ.

скептычнага хлопчыка—ён хмурыўся і кідаў на вуха суседу нейкія рэплікі, ну, і, канечне ж, звярнуцца да маленькіх мінчан, з якімі мы разам радаваліся, пакутавалі, абураліся.

Думка першая—вясёлай дзяўчынкі Лены Барташэвіч, вучаніцы 4-га класа.

— Я лялечны тэатр люблю. Лялькі вельмі падобныя на людзей, але больш смешныя. І хаця «Апельсіны і прынц» не такі ўжо вясёлы спектакль, я ўсё роўна знаходзіла смешнае (Лена засмяялася). Кароль, напрыклад. Ён пацешны вельмі, хаця яго і шкада.

— Хіба каралёў шкада?—спытала я.

— Не. Але гэта казачны кароль. Ён амаль чалавек. Лялечны тэатр падобны на «мульцікі». Я за гэта яго вельмі люблю і часта сюды хаджу. А што заўтра будзе?

Думка другая—скептыка Вовы Данілюка, вучня 1-га класа.

— Гэта ўсё няпраўда. Так не бывае, каб у апельсінах былі зачараваныя дзяўчаты. Яны б задыхнуліся, бо ўнутры апельсіна няма паветра, а без паветра жыць нельга. І потым лялькі не адкрываюць вуснаў, яны ў іх намаляваныя. Значыць, нехта за іх гаворыць. Не, я больш сюды не прыйду. Лепш у цырк. Там усё сапраўднае — і коні, і сабакі.

Думка трэцяя—майго суседа ў сінім, пад колер вачэй касцюме Юры Касьянава, вучня 3-га класа.

— А я яшчэ прыйду паглядзець. З бабуляй. Я ведаю, ёй спадабаецца. Калі мне падабаецца, дык і ёй таксама. Самы лепшы прынц Тарталья. Ён настойлівы і нічога не баіцца. А то ў нас іншы раз як бывае? Задумаем зрабіць што-небудзь цікавае, сустрэнем перашкоды—і кідаем. Мы тут усім класам. Можа пасля гэтага спектакля ўсё пойдзе інакш...

Браць інтэрв'ю рабілася ўсё цяжэй. З усіх бакоў нас цяснілі дзеці.

— Жахліва было вельмі: змяя магла ўкусіць прынца.

— А я не баялася, бо закаханым нічога не страшна.

— Як хораша, што ўдалося выратаваць апельсіны. У іх жа былі цудоўныя дзяўчаткі.



— Лялькі не сапраўдныя людзі, іх за шырмай водзяць артысты.

— Не, не, яны заводныя.

— На сцэне было вельмі прыгожа: неба то блакітнае, то чырвочае. Гэта мастак спецыяльна зрабіў, для настрою.

— У казках заўсёды дабро перамагае, а ў жыцці не абавязкова. Вось у нас у класе аднойчы Ігар набіў Сашу, а яго і не пакаралі. Ён усіх крыўдзіць...

— Выходзіць, казка — гэта не праўда?

— Праўда.

— А вось і не! Дрэвы гавораць і песні спяваюць — гэта праўда?

— Так. Летась мы на дачы жылі, дык увечары дрэвы вяршалінамі заўсёды аб нечым шапталіся. Я не мог пачуць, бо высока вельмі.

Нам час было развітвацца, і я сказала:

— Мы зараз разыдземся. Той, хто пойдзе да выхаду павольней за ўсіх,— таму спектакль спадабаўся. А хто пабяжыць—таму не спадабаўся.

Двое хлапчукоў адразу пабеглі.

— Яны гавораць, што гэта спектакль пра каханне, — пракаменціраваў іх «рывок» адзін з хлопчыкаў.

Астатнія дзеці ішлі вельмі павольна. Адны драбнюткімі крокамі, другія падоўгу трымалі ў паветры занесеную для чарговага кроку нагу.

А адна дзяўчынка наогул не кранулася з месца.

— Чаго ж ты не ідзеш?

— А мне так спадабалася, — сказала дзяўчынка, — што я з месца крануцца не магу...

Мне здаецца, што паўтары гадзіны, якія дзеці правялі ў глядзельнай зале Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, не пройдуць бясследна. Нават калі частка з іх задумаецца аб вялікай сіле дабра, аб тым, што са злом трэба змагацца, не адступаць, калі хоць у адным атрадзе, хоць у адным звяне пасля гэтага спектакля «ўсё пойдзе інакш»—значыць, не дарма працавалі цікавыя і даравітыя людзі: рэжысёр В. Казлова, мастак А. Фаміна, кампазітар Г. Вагнер і акцёры, якія здолелі «ўдыхнуць» жыццё ў лялькі, прымусілі іх разыграць добрую чароўную казку.

І. ПІСЬМЕННАЯ.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Драму «Толькі адно жыццё» А. Маўзона паказаў у Брэсце драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі. Паставіў спектакль народны артыст БССР Г. Волкаў у дэкарацыях, зробленых па эскізах мастака Ф. Назарава.

На здымку: сцэна са спектакля. У ролі Іванова заслужаны артыст БССР Ю. Уласаў (злева), следчага Корбута — артыст Г. Белацаркоўскі.

Фота В. БАРХАТАВАЙ.

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

Ісідар БАС

# ПЯСНЯР НАДДЗВІНСКАГА КРАЮ

## I

ТАДЭВУШ Лада-Заблоцкі... Сучаснаму чытачу гэтае імя амаль нічога не гаворыць. Адзіная яго кніга вершаў—«Паэзія» (на польскай мове) выйшла ў Пецярбургзе ў 1845 годзе і з таго часу больш не перавыдавалася ў Расіі. Цяпер яна стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Напэўна гэтую кніжку меў на ўвазе вядомы ў свой час рускі бібліёграф Р. Генадзі, калі пісаў у сваім артыкуле «Некалькі слоў пра беларускую народную паэзію і беларускіх паэтаў» («Иллюстрированная газета», 1866, т. XVII, № 21), што Заблоцкі—«адзін з галоўных прадстаўнікоў навейшай беларускай літаратуры». Вядома, не выключана магчымасць, што Лада-Заблоцкі пісаў вершы і на беларускай мове, але ў друку яны не з'явіліся. Што датычыцца архіўных крыніц, то ўсе нашы пошукі ў гэтым напрамку пакуль не далі станоўчых вынікаў.

Пасля смерці паэта ў рукапісах засталіся такія яго творы, як «Вопыты паэтычныя», «Матэрыялы па гісторыі славянскай цывілізацыі і літаратуры», «Позірк на гісторыю грузінскай літаратуры». Пра гэта паведаміла польская «Усеагульная энцыклапедыя» (т. 28) яшчэ ў 1868 годзе. Там жа гаворыцца таксама, што Заблоцкі вызначаўся мастацкім талентам сярод паэтаў так званай «беларускай школы» і што ў яго вершах «многа страснасці і вобразнасці».

Нарадзіўся Тадэвуш Лада-Заблоцкі ў 1812 годзе (на іншых звестках у 1811 г.) у Віцебску. Паходзіць ён з сям'і збяднелага шляхціча. Закончыўшы віцебскую гімназію, Заблоцкі паступіў на славеснае аддзяленне Маскоўскага універсітэта. Дапамог яму ў гэтым папячыцель Беларускай вучэбнай акругі Г. Карташэўскі. Справа ў тым, што Заблоцкаму, які па дакументах лічыўся палякам, трэба было атрымаць дазвол міністра асветы, каб мець права займацца ва універсітэце. Карташэўскі такі дазвол выклапаціў, але з умовай, каб пасля заканчэння універсітэта Лада-Заблоцкі шэсць гадоў працаваў настаўнікам у Беларусі. Заблоцкі згадзіўся і вучыўся ва універсітэце за кошт Віцебскай гімназіі.

Заняткі пачаліся восенню 1831 года. Тады ж, па словах даследчыка творчасці В. Р. Бялінскага М. Палякова («Студэнцкія гады Бялінскага», «Литературное наследство», 56. М. 1950), адбылося знаёмства Заблоцкага з будучым вялікім крытыкам і рэвалюцыйным дэмакратам. Бялінскі стаў сябрам яго студэнцкіх гадоў.

Той жа М. Палякоў лічыць, што паміж Заблоцкім і Бялінскім існавала агульнасць літаратурных і грамадска-палітычных інтарэсаў і што гэта з'явілася прычынай іх сяброўства.

Лада-Заблоцкі быў членам «Тайнага польскага літаратурнага таварыства», куды ўваходзілі студэнты — палякі і беларусы, што прыехалі з Мінска, Віцебска, Гродна і іншых месц. Ён даваў чытаць сваім сябрам па «Таварыстве» забароненую ў Расіі літаратуру, а таксама верш, які заклікаў звергнуць самадзяржаўе. Гэты верш быў непасрэднай прычынай таго, што Заблоцкага выключылі ў 1833 годзе з універсітэта і арыштавалі. Многа гадоў пазней А. Герцэн успамінаў у сваёй кнізе «Былое і думы», маючы на ўвазе—ёсць такая думка—Заблоцкага: аднойчы знік паляк, студэнт нашага аддзялення. Прысланы на казённы кошт, не па сваёй ахвоце, ён быў змешчаны ў наш курс: мы пазнаёміліся з ім: ён паводзіў сябе сціпла і маркотна: ніколі мы не чулі ад яго ніводнага рэзкага слова, але ніколі і ніводнага слабага. Аднойчы раніцай яго не было на лекцыях, на другі дзень таксама няма. Мы сталі пытацца, казённакоштныя студэнты сказалі нам па сакрэце, што па яго прыходзілі ноччу, што яго паклікалі ў праўленне, потым з'явіліся нейкія людзі па яго паперы і пажыткі і наказалі, каб пра гэта не гаварылі. Так і закончылася, мы ніколі не чулі пра лёс гэтага няшчаснага маладога чалавека».

У суправаджэнні жандара Заблоцкі быў дастаўлены ў Віцебск, дзе над ім і яго сябрамі —Смолічам, Шапялевічам, Міхалоўскім і некаторымі іншымі — адбыўся суд. Было ўстаноўлена, што Заблоцкі распаўсюджваў «песню абураючага зместу», у якой царскі трон называецца пеклам. На гэтым троне «цяпер сядзіць чорт, які ледзь не заслугоўвае шыбеніцы».

Заблоцкі і яго беларускі сябар Ягор Смоліч, а таксама Зянон Міхалоўскі за тое, што яны «абражалі яго імператарскую вялікасць дзёрзкімі выразамі ва ўласнаручных пісьмах і захоўвалі ў сябе абураючыя вершы», былі аддадзены радавымі ў салдаты.

Так віцяблянін Тадэвуш Лада-Заблоцкі апынуўся на Каўказе. З ім зрабілі тое ж самае, што і з Паляжаевым, Адоеўскім, Бястужавым-Марлінскім, Шаўчэнкам і іншымі пісьменнікамі, якія змагаліся з царызмам.

## II

Тут, на Каўказе, Заблоцкі і склаў свой паэтычны зборнік, выдадзены Рамуальдам Андрэевічам Падбярэзскім. Падбярэзскі, між іншым, выдаў у 1845 годзе ў Парыжы і кніжку «Украінскія народныя песні» ў перакладзе Т. Лада-Заблоцкага на французскую мову.

У зборніку Заблоцкага—93 вершы і паэма «Ваколіцы Віцебска». Нават беглае знаёмства з імі сведчыць, што паэт быў пад моцным уплывам польскага і рускага рамантызму. Невялікая частка вершаў напісана паэтам, калі ён яшчэ быў гімназістам, студэнтам Маскоўскага універсітэта—«Вілія», «Да Дзвіны», «Даўжанскае возера» і іншыя. Ужо адна назва іх паказвае, што змест вершаў цесна звязаны з «мясцовай тэмай». Сапраўды, Заблоцкі горача любіў Наддзвінне, Віцебшчыну, дзе нарадзіўся і вырас. Сябе ён нязменна называе «бардам зямлі беларускай». Словы «наша Беларусь», «Любы мой край» паэт паўтарае многа разоў.

Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца верш «Да Дзвіны». Напісаны ён, відаць, у канцы лета 1832 года, напярэдадні ад'езду ў Маскву пасля студэнцкіх вакацый.

Заблоцкі ўспамінае, як ён і яго віцебскія сябры («Трое нас было з маладым уяўленнем. Ішлі мы па жыцці разам здаровыя, звязаныя таварыствам») не аднойчы «марылі на беразе» Дзвіны. Калі ж кожнаму давялося пакінуць Віцебск, усе прыйшлі да любай іх сэрцу ракі, каб «падыхаць халоднымі яе хвалямі».

Пачуццём любасці да родных мясцін прасякнуты і верш «Даўжанскае возера». У заўвазе да яго паэт заначае, што возера знаходзіцца за 20 вёрст ад Віцебска і з'яўляецца «адным з самых цудоўных у Беларусі».

Заблоцкі правёў у Віцебскай турме некалькі гадоў, чакаючы канчатковага вырашэння свайго лёсу. Але і тут ён не пакідаў пісаць вершы. Яны склалі другі раздзел кнігі—«Віцебск». Цэнтральнае месца ў гэтай кнізе займае паэма «Ваколіцы Віцебска». У ёй 567 радкоў. Некаторыя радкі выкрасліла цэнзура і замест іх стаяць кропкі.

Паэт не меў ніякіх ілюзій наконт свайго лёсу. Ён ведаў, што царызм яго сурова пакарае і наўрад ці яму яшчэ давядзецца ўбачыць родны горад. І Заблоцкі заканчвае паэму такімі радкамі:

Апошняя сляза скацілася з-пад
апухлага павека.
Ваколіцы Віцебска! Развітваюся
з вамі назаўсёды.

Так яно і здарылася: ніколі Заблоцкаму ў Беларусі больш пабываць не давялося, хоць і засталіся там яго маці, блізкія сваякі. Нават калі ён быў вызвалены з салдацкіх ланцугоў, яму не дазволілі вярнуцца ў родныя мясціны.

Цікавыя заўвагі Лада-Заблоцкага да яго паэмы. Ён піша, што беларуская зямля дала некалькі вядомых у польскай літаратуры пісьменнікаў, такіх, як Мiхановіч—«цудоўны перакладчык трагедыі Эўрыпіда «Арэстэя», паэта Яна Аношку, Рыпінскага, «выданнем твораў якога павінен быў заняцца Кс. Карніловіч».

«Цяпер, калі я праглядаю рукапіс паэмы ў Тыфлісе ў 1844 годзе,—гаворыць Заблоцкі,—да мяне даходзяць вартыя ўвагі і павагі імёны П. П. Казіміра Буйніцкага, Міхаіла Борха, Аляксандра Грота-Спасоўскага, Яна Баршчэўскага, Ігнацыя Храпавіцкага і іншых, якія так горача бяруцца ў Беларусі за справу краёвага пісьменства». Паэт узрадаваны тым, што «наша Беларусь, пасля доўгіх гадоў летаргіі, нарэшце прачнулася і ў ёй пачынаецца новы перыяд духоўнага і разумовага жыцця».

Заблоцкі тут мае на ўвазе ў першую чаргу літаратараў, што пісалі на польскай мове. Не мог ён, аднак, не ведаць і пра тое, што некаторыя з іх, як Ян Баршчэўскі, пісалі і па-беларуску. Пра гэта гаварылася ў альманаху «Рочнік літарацкі» Падбярэзскага, які выпісваўся палякамі ў Тыфлісе. Напэўна, паэт быў знаёмы і з «Энеідай навыварат», бо тэкст яе надрукаваны ў часопісе «Маяк» у 1845 годзе, г. зн. яшчэ пры жыцці Заблоцкага.

Заблоцкага судзілі ў Віцебску вясной 1835 года. Потым справа была адаслана ў сенат, дзе яна праляжала два гады. Толькі ў маі 1837 года Заблоцкі быў сасланы на Каўказ.

## III

Пачаўся трэці перыяд творчасці паэта. Па вершах, змешчаных у трэцім раздзеле кнігі, можна бачыць, як цяжка даводзілася яму ў салдатах. Разам са сваім палком ён быў у Дэрбенце, Таганрогу, у станіцы Бяспечная, у Царскіх калодзежах ля Тыфліса і многіх іншых месцах. Заблоцкаму часта прыходзілася прымаць удзел у баявых дзеяннях. «Пасівела мая галава,—гаворыць ён у вершы «Маёй маці»,—у бітвах паслабелі мае рукі».

Аднойчы паэт убачыў у гарах Каўказа бярозку. Яна нагадала яму радзіму, Беларусь. Дзе б ён ні быў, што б ні рабіў, думкі яго заўсёды на поўначы, дзе цячэ ціхая Віцьба і дзе жыве маці.

Тадэвуш Лада-Заблоцкі быў вельмі адукаваны чалавек. Ён ведаў многа моў, і ў кніжцы маюцца вершаваныя пераклады з англійскай, французскай, італьянскай, нямецкай, іспанскай моваў. Цікавіўся Заблоцкі і грузінскай паэзіяй, напісаў нават працу па гісторыі грузінскай літаратуры. Многія грузінскія літаратары і асветнікі таго часу былі асабіста знаёмы з Заблоцкім. Цікава ў гэтай сувязі адзначыць, што Ніна Грыбаедава — жонка славутага аўтара камедыі «Гора ад розуму», лічыцца ў спісе асоб, якія падпісаліся на паэтычны зборнік Заблоцкага, выдадзены Рамуальдам Падбярэзскім.

Цікавая таксама і невялічкая заметка, змешчаная ў газеце «Кавказ» за 1847 г. (№ 1). У ёй гаворыцца: «Канцылярыя намесніка Каўказскага выказвае сваю шчырую падзяку п. Заблоцкаму за тое, што ён ахвяраваў розныя кніжкі ў публічную бібліятэку, якая засноўваецца з дазволу князя Намесніка».

Памёр Заблоцкі ад халеры ў жніўні 1847 года. Апошні час ён, звольнены з арміі, працаваў упраўляючым Кульпінскімі салянымі промысламі ў Грузіі. Памяці паэта прысвяціла невялікую натаку газета «Кавказ», у якой адзначалася, што Заблоцкі быў надзелены «цудоўным паэтычным талентам».

Творчасць Тадэвуша Лада-Заблоцкага — цікавая старонка польска-беларускіх літаратурных сувязей. Добра было б лепшыя творы паэта перакласці на беларускую мову. Таленавіты пісьменнік, сябар маладога Бялінскага, заслугоўвае таго, каб пазнаёміць нашага чытача з яго творчасцю.

## ВУСЫ МОНЫ ЛІЗЫ

Музей сучаснага або дакладней мадэрнісцкага мастацтва знаходзіцца на адной з зялёных ускраін горада. Музей прыватны. Ён створаны на ахвяраванні багатых прыхільнікаў і да гэтага часу матэрыяльна падтрымліваецца прыватнымі асобамі.

Па знешнім выглядзе музей падобны на склад або стары ангар. Унутры, пад скатамі даху, нацягнуты палосы белай тканіны, нібы рад паралельных падуг на сцэне. Падугі зліваюцца, утвараючы штучную столь. Белыя перагародкі ў цэнтры залы — дадатковыя плоскасці для размяшчэння экспанатаў. Плошча музея невялікая, гэта хутчэй не музей, а пастаянная выстаўка.

Расказваць пра экспанаты гэтага музея нялёгка. Вядома, можна адразу заявіць, што гэта не мастацтва, што гэта работы вар'ятаў або жулікаў, што гэта незразумела і смешна. Прычым, усё гэта праўда. І разам з тым, сказаць так, значыць, не сказаць нічога.

Так, гэта не жывапіс і скульптура ў агульнапрынятым разуменні. Кавалак анучы з некалькімі мазкамі фарбы не назавеш карцінай толькі за тое, што ён у рамцы павешаны на сцяну. Натуральнае чучала казла, падпяразанае сапраўднай аўтамабільнай пакрышкай, ніяк не назавеш скульптурай. Нават тое, што аблезлая морда гэтага казла запэцкана зялёнай фарбай, не набліжае яго да мастацтва. Тым больш не з'яўляюцца творам мастацтва тыя тры крэслы, якія выстаўлены толькі таму, што ў іх аднолькава адпілавана чацвёртая ножка.

Усё, што тут выстаўлена—гэта не карціны і не скульптуры. Гэта іменна экспанаты—прадметы, аб'ёмныя кампазіцыі, вырабы. Выраб іх не патрабуе мастацкага ўмення, майстэрства. Гэта музей вынаходніцтва, музей асацыяцый, нечаканых сімвалаў. Кожны экспанат — загадка, шарада. Іншы раз загадка без разгадкі—ну і няхай незразумела.



Пасейдон Мілеса.

Першая рэакцыя ўпершыню трапіўшага сюды чалавека—здзіўленне. Незразумела. Паколькі незразумела—недарэчна. А раз недарэчна, дык смешна. Вось і смяюцца ў паўпустых залах прывезеныя сюды з далёкіх краін турысты.

Між тым, не ўсе экспанаты такія недарэчныя і смешныя. Проста яны дрэнна і наіўна выкананы. Іншы раз дрэнна задуманы. Некаторыя з іх наводзяць на роздум, на які ў турыстаў няма часу, некаторыя неаддзельныя ад сваёй назвы, якая так і застаецца невядомай іншаземцу.

Вось на стэндзе заржавелыя часткі старых гадзіннікаў. Мы здзіўлены: што ж да гэтага дадаў мастак? А ён не дадаў нічога. Проста разняў іх, умацаваў на стэндзе і даў назву: «Час». Магчыма, ён і не быў мастаком. Але ён думаў як мастак і спадзяваўся, што зробленага ім дастаткова, каб выклікаць у гледача адпаведны вобраз.

Побач на пастаменціку ўстаноўлена нешта падобнае на прымітыўна зробленую мадэль камбайна. Мадэль дзеючая—павольна, са скрыпам круцяцца захопныя крукі. «Павук»—назваў аўтар свой «твор». Спачатку гэта толькі смешна. Потым драпежныя

Працяг. Пачатак у мінулым нумары газеты